100 выдатных дзеячаў беларускай культуры

Святлана ШАХОЎСКАЯ

# ІВАН НАСОВІЧ

## Збіральнік народнага слова

Мінск
Харвест

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*
*Заснавальнік, каардынатар і рэдактар серыі А. Я. Тарас*
*Мастацкае афармленне серыі Б. Г. Клюйка*

**Шахоўская С.**
Іван Насовіч: Збіральнік народнага слова / Святлана Шахоўская. — Мінск : «Харвест», 2015. — 64 с. : малюнкі. — (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)

ISBN 978-985-18-3554-2

Іван Насовіч (1788—1877) — славуты мовазнавец, этнограф і фальклярыст, пачынальнік беларускай лексікаграфіі. Склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы (1867 г.), першы тлумачальна-перакладны «Словарь белорусского наречия» (1870 г.), пяць зборнікаў беларускага фальклора. Аўтар шматлікіх артыкулаў па фальклоры і этнаграфіі.

**ISBN 978-985-18-3554-2**

Беларускі этнограф, лінгвіст і фальклярыст Павел Шэйн, выпадкова даведаўшыся пра смерць Івана Насовіча ў 1878 годзе, праз год пасля гэтай сумнай падзеі, быў глыбока ўражаны і абураны тым, што ніхто з даследчаных грамадзян горада Мсціслава, універсітэцкіх прафесараў, а таксама сыноў Івана Іванавіча, не напісаў ні ў губернскіх ведамасцях, ні ў сталічным друку, ні ў акадэмічных выданнях, што адышоў у іншы свет такі «заслужаны працаўнік рускай навукі». Нагода для абурэння ў П. Шэйна сапраўды была.

Іван Іванавіч Насовіч — адзін з найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускай навукі XIX ст., вядомы фальклярыст і лексікограф, таленавіты этнограф. Ён большую частку свайго жыцця прысвяціў вывучэнню культуры, мовы і побыту беларусаў, пакінуў нашчадкам першы ў гісторыі айчыннага мовазнаўства тлумачальна-перакладны слоўнік беларускай мовы, першы гістарычны слоўнік беларускай мовы, зборнікі беларускіх прыказак і песень, вялікую колькасць навуковых публікацый па разнастайных пытаннях мовазнаўства, гісторыі і этнаграфіі. Плённая дзейнасць І. Насовіча была высока ацэнена Рускім геаграфічным таварыствам і Імператарскай Акадэміяй навук, якія з'яўляліся сапраўдным цэнтрам навукі і асветы ў тагачаснай Расіі. За свае навуковыя дасягненні гэты таленавіты даследчык быў узнагароджаны некалькімі важнымі дзяржаўнымі прэміямі і ордэнамі.

У свой час акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі (1812—1880) адзначаў, што Іван Насовіч належыць да той кагорты навукоўцаў, якія, нягледзячы на велізарныя дасягненні, ушаноўваюцца значна менш, чым яны таго заслугоўваюць. На працягу доўгага перыяду імя беларускага філолага, які стаў пачынальнікам прафесійнай

лексікаграфіі на Беларусі, зусім не згадвалася ні ў навуковых, ні ў грамадскіх колах. Аднак сёння ён «рэабілітаваны» з катэгорыі забытых: Івана Насовіча называюць «беларускім Далем», а складзены ім слоўнік беларускай мовы — «вяршыняй усходнеславянскай лексікаграфіі XIX ст.», рэгулярна адзначаюцца юбілейныя даты з дня нараджэння вучонага, факсімільна перавыдадзены яго славуты «Словарь белорусского наречия».

Пра міжнароднае прызнанне вялікага ўкладу Івана Насовіча ў славянскую філалогію сведчыць унясенне ЮНЕСКА даты яго смерці ў «Каляндар гадавін вялікіх людзей і знамянальных падзей на Зямлі».

## Са святарскай сям'і

Іван Іванавіч Насовіч нарадзіўся 26 верасня 1788 года ў вёсцы Гразівец Быхаўскага павета (зараз Чавускі раён) Магілёўскай губерні ў сям'і царкоўнага псаломшчыка, які пазней быў рукапакладзены ў святары.

Яго дзед Рыгор застаў яшчэ часы Рэчы Паспалітай. Ён таксама паходзіў са святарскай сям'і, але працаваў на памешчыка і шмат часу правёў у асяроддзі простых беларускіх сялян, добра ведаў іх звычаі і мову. Тым не менш ён заўсёды памятаў пра сваё паходжанне і па дасягненні паўналетняга ўзросту пачаў вучыцца царкоўнай грамаце.

Пасля атрымання адукацыі ён быў прызначаны дзякам і накіраваны працаваць у вёску Доўгі Мох, а адтуль — у вёску Гразівец, дзе абжыўся і асеў разам з сям'ёй. Бацька вучонага Іван Рыгоравіч навучаўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі і быў чалавекам здольным да граматы і навук, добра ведаў латынь, стараславянскую, рускую і беларускую мовы. Праз раннюю смерць бацькі Іван Рыгоравіч быў вымушаны пакінуць семінарыю і заняў бацькава месца дзяка ў гразівецкай царкве. Нягледзячы на незаконччаную адукацыю, ён

вельмі любіў навукі і выхоўваў павагу да асветы ў сваіх дзяцей.

У Гразіўцы Іван Рыгоравіч ажаніўся з дачкой святара з мястэчка Расна Чэрыкаўскага павета Аглаяй Андрэеўнай Хадкевіч — чалавекам інтэлігентным і разумным. Па ўспамінах І. І. Насовіча, яго маці таксама мела схільнасць да вучобы, бясконца чытала, шмат увагі надавала самаадукацыі, а пазней і навучанню грамаце дзяцей, у тым ліку самага здольнага — Івана.

Калі Івану было пяць гадоў, а яго старэйшаму брату шэсць з паловай, бацька пачаў знаёміць іх з граматай. Ужо праз год будучы навуковец свабодна чытаў царкоўнаславянскія і рускія тэксты.

Іван Рыгоравіч апрацоўваў зямлю, вудзіў рыбу і займаўся садоўніцтвам. Акрамя таго, ён меў нядрэнны заробак у канторы, дзе падпрацоўваў пісарам: добры почырк на той час быў рэдкасцю. Дзякуючы клопатам і стараннням бацькі сям'я Насовічаў заўсёды жыла ў дастатку.

Іван Рыгоравіч сам падрыхтаваў сыноў да паступлення ў семінарыю. Прычым зрабіў гэта настолькі якасна, што ім нават не давялося адвучвацца два гады на падрыхтоўчым аддзяленні. Ён навучыў дзяцей граматна пісаць па-руску і дапамог засвоіць асновы латыні. Іван Іванавіч успамінаў:

> ...будучы няпоўных дзесяці гадоў, [я] добра ведаў скланенне назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў і спражэнне ўсіх дзеясловаў, нават няправільных, ведаў часціны мовы і адрозніваў іх (...) усе вучні старшых класаў, якія былі вакол нас, задавалі нам этымалагічныя пытанні і, атрымліваючы на іх здавальняльныя адказы, глядзелі на нас, як на нейкі цуд.

У семінарыі будучы навуковец вывучыў французскую і грэчаскую мовы, пазней — польскую і старажытнаяўрэйскую, што ў многім паспрыяла ў яго далей-

шай філалагічнай працы. Лацінскай мовай ён авалодаў настолькі добра, што мог якасна перакладаць арыгінальныя тэксты на рускую мову. Найбольш значным з пераўтварэнняў Івана Іванавіча з латыні стаў часткова пераклад трохтомнай працы каталіцкага багаслова і гісторыка Аўгусціна Тэйнера «Vetera monumenta, historiam Poloniae et Lithuaniae illustrantia» («Старажытныя помнікі, што асвятляюць гісторыю Польшчы і Літвы»), у якой апісаны ўзаемадачыненні Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, асветлена гісторыя беларускіх земляў з 1217 па 1696 год. Перакладаў Іван Насовіч таксама «Псалтыр», прычым у вершаванай форме. На жаль, да нашага часу гэты пераклад не захаваўся.

## З КРЫЖОМ І КНІГАЙ

Пасля паспяховага заканчэння семінарыі І. І. Насовіч быў накіраваны выкладчыкам рускай славеснасці вышэйшага аддзялення і інспектарам у Аршанскае павятовае духоўнае вучылішча. Педагагічная дзейнасць будучага вучонага тут была ацэнена высока, таму ўжо праз год яго перавялі на адпаведную пасаду ў Мсціслаўскае духоўнае вучылішча, дзе Іван Іванавіч вёў курсы рускай славеснасці і лацінскай мовы, а ў 1818 годзе стаў рэктарам. Акрамя педагагічнай дзейнасці ён актыўна займаўся культурна-асветніцкай працай сярод грамадскасці Мсціслава.

У 1822 годзе Іван Іванавіч з Духоўнага ведамства перайшоў на службу ў Міністэрства народнай асветы. Прычынай сталі сямейныя абставіны: у гэты час у яго нарадзілася чацвёртае дзіця (усяго іх будзе сямёра), і бацька імкнуўся даць дзецям як мага лепшую адукацыю.

Кіраўніцтва вучэбнай акругі накіравала І. І. Насовіча ў Дынабург (зараз Даўгаўпілс) для арганізацыі Дынабургскай гімназіі. Іван Іванавіч паспяхова справіўся з пастаўленай задачай, пасля чаго быў пераведзены на

пасаду дырэктара («смотрителя») Маладзечанскага пяцікласнага дваранскага вучылішча, а пазней — Свяцянскага вучылішча.

Педагагічны перыяд у жыцці І. І. Насовіча налічваў роўна 30 гадоў самаадданай працы і закончыўся даволі нечакана. У адной са службовых паездак у Вільню ў 1843 годзе ён быў запрошаны да дырэктара Віленскай гімназіі Скарабелі, пад наглядам якога ў той час знаходзілася Свяцянскае вучылішча. У аўтабіяграфіі І. І. Насовіч пісаў пра гэтую лёсавызначальную сустрэчу наступнае:

> Ён прыняў мяне ветліва і прапанаваў выпіць у яго кубачак кавы. Але пададзеная мне кава была з вяршкамі. Гэта было 29-га жніўня, у дзень Адсячэння галавы Іаана Прадцечы, у які, па правілах царквы, я ва ўсё жыццё маё захоўваў пост. Я, стараючыся не пакрыўдзіць, адмовіўся, прабачаючыся тым, што ў гэты дзень я пашчуся. Скарабелі відавочна пакрыўдзіўся, таму што ўжо поснай [кавы] мне не падалі і таму, што, не спытаўшы мяне, у верасні месяцы прадставіў мяне апекуну да адстаўкі.

За заслугі Івана Насовіча перад звальненнем яго на пенсію ўзнагародзілі ордэнам святога Станіслава трэцяй ступені.

У лісце да Паўла Шэйна сын І. І. Насовіча пісаў пра тое, што такая нечаканая бацькава адстаўка выклікала вялікае шкадаванне як у яго падначаленых, выкладчыкаў і вучняў, так і ва ўсёй свянцянскай грамадскасці ўвогуле.




*Ордэн святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра*

Вярнуўшыся ў Мсціслаў, былы настаўнік быў запрошаны на пасаду дэпутата ў мясцовую кватэрную камісію, што дазволіла яму атрымаць ордэн святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра чацвёртай ступені (у форме крыжа) за сумленную 35-гадовую дзяржаўную службу.

У мемуарах слынны беларускі педагог пакінуў нямала цікавых успамінаў пра сваю педагагічную дзейнасць, а таксама пра жыццё тагачаснага беларускага настаўніцтва, пра арганізацыю навучальных устаноў і вучэбныя курсы, якія ў іх чыталіся. Шмат разважаў ён і пра праблемы выхавання моладзі, важнасць адукацыі для наступных пакаленняў.

## Збіральнік народных скарбаў

Сярэдзіна XIX ст. — надзвычай важны перыяд у развіцці беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі, якая паступова пачала пераўтварацца ў самастойную філалагічную навуку. У гэты час назіраўся глыбокі крызіс у эканоміцы Расійскай Імперыі, так званае «сялянскае пытанне» стала найважнейшай праблемай і патрабавала неадкладнага вырашэння. Адным з вынікаў скасавання прыгоннага права было ўзнікненне бесцэнзурнага друку, што дазволіла народным масам сказаць сваё слова ў перыядычных выданнях.

Пасля нечаканага выхаду на пенсію 55-гадовы І. Насовіч заняўся літаратурнай і навуковай дзейнасцю. Даволі сталы для даследчыка-«пачаткоўца» ўзрост не перашкодзіў вучонаму яшчэ 30 гадоў плённа папрацаваць на ніве беларускай навукі. Ягоны сын адзначыў, што да апошніх сваіх дзён бацька не мог сядзець без справы, ён увесь вольны час аддаваў знаёмству з новай літаратурай, апрацоўцы фальклорных тэкстаў, напісанню навуковых работ.

Першай спробай пяра Івана Іванавіча стаў артыкул «О борьбе набожности с суевериями и ошибками во

времена ветхозаветной церкви»: былы настаўнік яшчэ толькі вызначаў будучае поле дзейнасці.

Ідэю звярнуцца да вывучэння беларускай этнаграфіі, фальклору і мовы І. Насовічу падказалі святары, якіх ён сустрэў аднойчы ў гасцях у свайго пляменніка. Вучоны ўспамінаў:

> усе /яны/ раілі мне заняцца беларускай гаворкай, багатым прадметам для разгляду яго. З гэтага часу я пачаў збіраць матэрыялы для складання слоўніка беларускай гаворкі і з пачатку 1848 года паклаў пачатак па гэтым прадмеце.

З дзяцінства жывучы ў сялянскім асяроддзі, Іван Іванавіч быў добра знаёмы са звычаямі і святамі беларусаў, дасканала ведаў мову, памятаў шматлікія песні, прыказкі, прымаўкі, легенды і паданні. Таму ён з ахвотай заняўся збіраннем і вывучэннем гэтага цікавага моўнага матэрыялу. Каб занатаваць беларускі фальклор, ён шмат падарожнічаў па тых мясцінах, якія яго цікавілі, а таксама сустракаўся з велізарнай колькасцю беларускіх сялян у сваім доме. Сын успамінаў, як у час жніва ў хату бацькі ў Мсціславе прыходзілі жнеі з вянкамі з жытніх каласоў, прыносілі з поля апошні сноп, упрыгожаны кветкамі і стужкамі, і спявалі жніўныя песні. Іван Іванавіч добра ведаў гэтыя песні і любіў спяваць разам з жанчынамі.

Прадстаўнікі местачковай інтэлігенцыі прыязна ставіліся да этнаграфічных пошукаў Насовіча і ўсяляк садзейнічалі навукоўцу. Вяскоўцы тым больш ахвотна дзяліліся сваімі ведамі ў нязмушанай абстаноўцы, адказваючы на шматлікія пытанні даследчыка.

За некалькі гадоў напружанай працы вучоны сабраў дастаткова аб'ёмную базу беларускай лексікі і разнастайных фальклорных тэкстаў. У 1850 годзе ён прадставіў на разгляд Другога аддзялення Імператарскай Акадэміі навук тры свае працы: кароткае філалагічнае назіранне

над беларускай гаворкай, аб'ёмны спіс беларускіх слоў і зборнік беларускіх прыказак. Апошняя работа налічвала каля тысячы фразеалагічных адзінак і была надрукавана спачатку ў дадатках да «Вестей Второго отделения Академии наук» за 1852 год пад назвай «Памятники и образцы народного языка и словесности русских и западных славян», а пазней выйшла самастойным выданнем.

У гэты нарыс была ўключана значная колькасць арыгінальных беларускіх прыказак і прымавак з аўтарскімі тлумачэннямі да іх:

> **Андрей Кузьме родной Хвёдоръ.** Говорится о томъ, кто хвалится небывалым родствомъ съ кемъ либо знатнымъ.
>
> **Богатъ Цимошка: собака да кошка.** Говорится о бедняке, хвастающем состоятельностью.
>
> **Тэй же кукишъ, да на талерочце.** Говорятъ, если кто грубости, упреки и непріятности прикрываетъ некоторыми формами вежливости.

Да падборкі прыказак і прымавак Іван Іванавіч падаў невялікі слоўнік, у якім пераклаў на рускую мову звыш 220 беларускіх слоў, якія, на яго думку былі незразумелымі рускамоўнаму чытачу: *жартоваць* — *шутить*; *зычиць* — *желать*, *советовать*; *гули* — *в праздности проводимое время*, і гэтак далей.

Як справядліва адзначаў беларускі фальклaрыст Іван Цішчанка, ужо тая акалічнасць, што першая праца І. Насовіча была надрукавана на старонках такога саліднага навуковага выдання, якім з'яўляліся акадэмічныя «Вести», сведчыць пра сур'ёзныя даследчыцкія здольнасці дэбютанта — далёка немаладога вучонага. Яшчэ больш гонару навуковым пачынанням Івана Іванавіча рабіла тое, што яны былі выкананы на належным узроўні, нягледзячы на адсутнасць у аўтара спецыяльнай філалагічнай адукацыі. Трэба адзначыць,



*Мсціслаўскае духоўнае вучылішча*

што ў гэтым Іван Іванавіч нагадвае вядомага расійскага філолага XIX ст. — Уладзіміра Даля, які, як і яго беларускі калега, пачынаў свой шлях у навуку з багаслоўя.

Праз два гады Насовіч падрыхтаваў і даслаў акадэміку Ізмаілу Сразнеўскаму спачатку зборнік беларускіх народных баек, апавяданняў і былін, а пасля — зборнік беларускіх песень. На жаль, абодва гэтыя зборнікі не захаваліся.

У 1864 годзе Іван Іванавіч, адчуваючы патрэбу ў кансультацыях навукоўцаў і супрацоўніцтве са спецыялістамі-філолагамі, пераехаў у цэнтр навуковай думкі таго часу — Санкт-Пецярбург. Магчымасць прамога доступу да сталічных кнігасховішчаў адкрывала перад вучоным перспектывы, значна шырэйшыя за мсціслаўскія. У Пецярбургу ён пражыў 6 гадоў і менавіта ў гэты перыяд пачаў рэгулярна друкаваць свае працы ў спецыяльных выданнях. Так, у 1864 годзе ён прадставіў у Імператарскае геаграфічнае таварыства «Сборник белорусских пословиц». Праз год зборнік быў надрукаваны ў «Записках Императорской Академии наук», а яшчэ праз год з'явілася дапаўненне да зборніка. Абедзве гэтыя працы ўключаюць амаль 3500 прыказак.

У сваім даследаванні Іван Іванавіч не проста занатаваў багацці беларускай мовы, але і паспрабаваў раскрыць значэнне прыказак і прымавак, растлумачыць іх этымалогію. Да прыказак вучоны прыводзіў адпаведнікі з рускай мовы, а ў многіх выпадках — і з іншых моў (лацінскай, польскай, французскай). Гэта было першае выданне такога тыпу ва ўсходнеславянскай філалагічнай навуцы.

За «Сборник белорусских пословиц» І. Насовіча ўзнагародзілі залатым медалём, а пазней нават абралі членам-супрацоўнікам Імператарскага геаграфічнага таварыства па аддзяленні этнаграфіі. У 1867 годзе зборнік быў перавыдадзены ў дапрацаваным выглядзе

(у яго ўвайшло звыш 3700 прыказак). Прыказкі аўтар дапоўніў прыгаворкамі, прывітаннямі, віншаваннямі, пажаданнямі, жартамі, праклёнамі, дражнілкамі, скорагаворкамі, крылатымі выслоўямі, загадкамі і іншымі творамі малых фальклорных жанраў. Ён сціпла назваў сваю працу зборнікам прыказак, аднак на самай справе гэта быў першы ў гісторыі ўсходнеславянскага мовазнаўства тлумачальны слоўнік фразеалагізмаў.

У кнігу ўвайшлі не толькі запісы самога Івана Іванавіча. Укладальнік уключыў у зборнік таксама фальклорныя творы, сабраныя навучэнцамі тых устаноў, дзе працаваў, і матэрыял з выдання Уладзіміра Даля «Пословицы русского народа» (1853, 1861—1862).



*Прафесар Каэтан Касовіч (1814—1883)*

У прадмове да зборніка І. І. Насовіч адзначаў высокі ўзровень беларускай вуснай народнай творчасці, захапляўся філасофскім зместам прыказак і іншых афарыстычных выслоўяў, указваў на іх маральна-этычную вартасць. Ён справядліва лічыў, што падобныя творы займаюць важнае месца ў жыцці простага беларускага люду і сведчаць пра народную мудрасць і трапнасць розуму сялян:

> Беларусы ўсе факты, усе выпадковасці чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і благія, і рознае нават меркаванне пра што-небудзь падводзяць пад мерку прыказак сваіх. Старыя прыказкамі ўсяляюць у

моладзь страх Божы, надзею на Бога і правілы чэснасці і дабрадзейнасці; навучаюць дзяцей паважаць старэйшых, быць асцярожнымі ў словах, больш маўчаць, быць ашчаднымі. Прыказкамі асуджаюць заганы і хібы, выпраўляюць недахопы, дакараюць, паграджаюць. Прыказкамі суцяшаюць у жалобе, весяляць і нават выклікаюць усмешку ў таго, хто плача.

Моўны матэрыял размешчаны ў алфавітным парадку, які яшчэ ў першай палове XIX ст. быў прызнаны нязручным і немэтазгодным для адлюстравання ўстойлівых выразаў. Такі спосаб падачы рэзка крытыкаваў Ул. Даль (1801—1872), які ўжо распрацаваў і прапанаваў для шырокага выкарыстання прынцып прадметнай групоўкі прыказак.

Аднак, нягледзячы на гэты малаістотны недахоп, нават у наш час «Сборник белорусских пословиц» Івана Насовіча застаецца аўтарытэтным выданнем, у якім захаваны для нашчадкаў вялікі аб'ём карысных лінгвістычных звестак — фразеалагічных, этымалагічных, семантычных:

**Гадко зъесци и жаль кинуци.** Говорятъ, когда невыгодная вещь куплена дорогою ценою, или когда близкій сердцу ведетъ себя дурно.

**Давъ Богъ хлеба, да не умевъ уживаць, якъ треба.** Говорятъ въ упрекъ дурно воспользовавшемуся счастливыми обстоятельствами или богачу, обедневшему черезъ невоздержную жизнь.

**Съ якимъ пристанешъ, такимъ и самъ станешъ.** Наставление не связываться съ дурными.

Спробы высветліць паходжанне прыказак рабіліся задоўга да І. Насовіча. Так, Ул. Даль, які ў той час шмат працаваў з рускай вуснай народнай творчасцю, адзначаў, што выяўленне значэння прыказак — справа складаная і клапатлівая, яна патрабуе ў даследчыка не

толькі шмат часу, але і адпаведнай спецыяльнай падрыхтоўкі. Без кваліфікаваных каментарыяў для сучаснага чалавека яны могуць быць незразумелымі. Таму многія фалькларысты скептычна ставіліся да зборнікаў прыказак і не бачылі ў іх выданні асаблівага сэнсу. Аднак Іван Іванавіч не пашкадаваў намаганняў і стварыў сапраўды фундаментальную працу — першую такога кшталту ва ўсходнеславянскай лінгвістыцы. Па асобных лексікаграфічных параметрах і паўнаце апісання «Сборник...» І. Насовіча нават пераўзыходзіў выданні Ул. Даля.

Нерастлумачанай у зборніку засталася нязначная колькасць прыказак, раскрыць значэнне якіх аўтару, відаць, не дапамагла ні спецыяльная літаратура, ні запісы рэспандэнтаў.

Дзякуючы І. Насовічу захаваўся сэнс некаторых прыказак, якія не могуць быць патлумачаны з пункту гледжання сучаснай навукі: «З ляску дажджэшся, а з пяску — ніколі», «Хто ў стрэсе, а хто ў лесе», «Каб воля, найшоў бы сабе поле»... Акрамя таго, укладальнік у сваіх тлумачэннях адлюстраваў шматзначнасць прыказак, што засведчыла яго добрае знаёмства з традыцыйнай народнай культурай, нормамі жыцця і побытам беларусаў. Праўда, у кнігу практычна не ўвайшлі фальклорныя творы вострага сацыяльнага зместу. Гэта было звязана з дзейнасцю цэнзуры, якая строга кантралявала выдавецкую справу. Тым не менш выбарка прыказак для зборніка дастаткова выразна вызначыла грамадзянскую пазіцыю вучонага: Іван Насовіч любіў і шанаваў беларускія звычаі і традыцыі, з сімпатыяй ставіўся да простага чалавека, хаця мог сабе дазволіць і пасмяяцца з сітуацый, у якіх селянін паўставаў не ў лепшым выглядзе.

У савецкай фалькларыстыцы за такія іранічныя кпіны з сялян І. Насовіча спрабавалі крытыкаваць, як і за ўключэнне ў зборнік прыказак на рэлігійную тэ-

матыку, выслоўяў, у аснову якіх пакладзены жарты з суседніх народаў (палякаў, літоўцаў, украінцаў, рускіх), а таксама з яўрэяў і цыган. Аднак падыходы да ацэнкі зместу фальклорных твораў ва ўсе часы вызначаліся грамадскім ладам і канкрэтна-гістарычнай палітычнай кан'юнктурай, а не толькі іх мастацкімі вартасцямі.

У гэтым жа зборніку знайшлі сваё месца шматлікія арыгінальныя прыказкі пра беларускія гарады Нясвіж, Смаргонь, Магілёў, Полацк, Крычаў і іншыя.

У час свайго пражывання ў Пецярбургу Іван Іванавіч пазнаёміўся з цэлым шэрагам вядомых вучоных, што значна пашырыла кола яго магчымасцей і інтарэсаў. Ён заўсёды вельмі цікавіўся гісторыяй. Найбольш яго захапляла старажытная і новая гісторыя Беларусі, веды пра якую вучоны значна паглыбіў, працуючы з Актамі Заходняй Расіі, а таксама пакуль перакладаў трохтомнае выданне Аўгусціна Тэйнера.

Вынікам далейшых гістарычных і лінгвістычных росшукаў І. Насовіча стала яго даследаванне «О племенах до времен Рюрика, населявших белорусскую территорию» (1868), у якім вучоны спрабаваў даказаць, што назвы старажытных плямён (*крывічы*, *дрыгавічы*, *радзімічы*) маюць у сваёй аснове беларускія карані.

У сярэдзіне 1940-х гадоў у горадзе Дзаўджыкаў (зараз Уладзікаўказ) у Паўночнай Асеціі беларускі лінгвіст Міхаіл Суднік (1910—1995) адшукаў рукапіс мемуарнай працы І. Насовіча «Воспоминания моей жизни», у якой адлюстроўвалася жыццё некалькіх пакаленняў продкаў вучонага, характарызавалася мсціслаўскае духавенства і свецкае асяроддзе, раскрываліся духоўныя інтарэсы і маральнае аблічча беларускай інтэлігенцыі XVIII і XIX стст.

З імем Івана Насовіча звязана таксама выданне ў 1873 годзе першага вялікага зборніка беларускіх народных песень, у якім змешчаны апісанні некалькіх народных абрадаў і звыш 350 тэкстаў вясельных, ка-

лядных, жніўных, жартоўных, рэкруцкіх, салдацкіх, баладных, антыпанскіх і іншых песень. Большасць з твораў зборніка вылучаецца высокімі паэтычнымі якасцямі. Акрамя таго, Насовіч апублікаваў яшчэ і шэраг нарысаў, у якіх разглядаў змест і характар песень, даваў апісанне жыццёвых абставін, пры якіх яны выконваліся.

Гэты зборнік не атрымаў высокай ацэнкі фалькларыстаў па той прычыне, што песні ў ім не былі пашпартызаваныя (не мелі дадзеных, калі, дзе і ад каго яны запісаны), чаго патрабавала традыцыйная методыка збірання і апрацоўкі фальклорных твораў. Больш таго, укладальнік побач з уласнымі запісамі падаў таксама тэксты іншых збіральнікаў, у прыватнасці Яна Чачота і Яўстафія Тышкевіча, якія раней ужо былі апублікаваны лацінкай. У сваім зборніку Насовіч перадрукаваў гэтыя тэксты кірыліцай, што па-сутнасці было ста-



*Магілёўская духоўная семінарыя у XIX стагоддзі*

ноўчым фактам, паколькі рабіла беларускую песню больш даступнай не толькі для шырокай рускай аўдыторыі, але і для саміх беларусаў (праваслаўных), якія не заўсёды маглі правільна прачытаць напісанае лацінскім шрыфтам.

Сапраўды істотным недахопам выдання можна лічыць хіба што асобныя фактычныя памылкі ўкладальніка: у вызначэнні разнавіднасці песень (напрыклад, *талочная* замест *дажынкавай*), падзел некаторых тэкстаў песень на часткі і прадстаўленне гэтых частак у якасці самастойных твораў.

У аснову класіфікацыі песень Насовіч паклаў адпаведную групоўку песенных твораў Яна Чачота з дапаўненнямі, зробленымі паводле ўласных запісаў. Усе фальклорныя творы, зафіксаваныя ў зборніку, вучоны размеркаваў па двух вялікіх раздзелах. Першы — песні, звязаныя з абставінамі грамадскага жыцця; другі — песні з жыцця сям'і. Такім чынам, першы раздзел уключаў святочныя песні (калядныя, віншавальныя, песні з гульбішчаў і зборышчаў, песні скамарохаў), другі — благавешчанскія, веснавыя, юраўскія, валачобныя і купальскія. У падраздзеле з песнямі, якія спяваліся падчас правядзення палявых работ, пададзены талочныя, дажынкавыя і веснавыя песні. Асобную групу склалі творы забаўляльнага зместу: жартоўныя, танцавальныя, баладныя і любоўныя.

У другі раздзел уключаны сямейна-бытавыя песні (галоўным чынам вясельныя), размеркаваныя ў адпаведнасці з этапамі абраду: сватанне, каравайныя песні, пры пасадзе, на расплятанне касы, хрэсьбінныя песні, калыханкі і гэтак далей. Невялікі дадатак змяшчаў рэкруцкія песні.

Праўда, у зборнік трапілі не толькі песенныя творы. У выданні можна знайсці духоўную паэзію, вершаваны пераказ фантастычнай казкі пра Змея-Гарыныча, дыялог двух мужыкоў пра жыццё мінулае і цяперашняе, які

мэтазгодна было б аднесці да гутарак. Хаця названыя творы цяжка назваць высокапаэтычнымі, яны таксама вартыя ўвагі даследчыкаў, паколькі напісаны з гумарам, вобразнай мовай, насычанай трапнымі параўнаннямі і метафарамі.

Акрамя таго, у гэтым выданні Насовіч прапанаваў падзел песень на мужчынскія і жаночыя. Пераважная большасць твораў гэтага жанру, сапраўды, належыць жанчынам, бо ўсе заняткі, якімі займаліся раней жанчыны, суправаджаліся песнямі адпаведнага зместу. Больш сціплым падаваўся навукоўцу зварот да песень моцнай паловы чалавецтва, што таксама не дзіўна: складанасць мужчынскай працы не прадугледжвала спеваў падчас яе выканання.

Асаблівую цікавасць для гісторыкаў фальклору ўяўляюць разважанні навукоўца пра беларускую песню як жанр, якія ён уключыў у прадмову да кожнага з раздзелаў. Насовіч аналізаваў старажытныя элементы ў беларускіх песнях, а таксама звяртаў увагу на тое, што змяненні гістарычных эпох і сацыяльна-бытавых умоў не спрыяюць развіццю народнай песні як жанру. У якасці галоўнай прычыны знікнення многіх твораў абрадавай паэзіі навуковец называў забарону царквой язычніцкіх народных свят. Каб захаваць сведкі пра іх, ён змясціў у кнізе апісанні некаторых свят і звязаных з імі традыцый і звычаяў.

Важнымі з пункту гледжання сучаснай навукі з'яўляюцца апісанні хрэсьбін і радзіннага абраду, зробленыя даследчыкам. Фальклярыст Іван Цішчанка (1930—2001) адзначаў, што прыведзеныя Насовічам звесткі пра гэтыя падзеі, важныя ў жыцці кожнай сям'і, значна адрозніваліся ад апісанняў этнографаў-папярэднікаў, напрыклад, Паўла Шпілеўскага (1823—1861). Калі ў ранейшых запісах бабка-павітуха надзялялася якасцямі ледзь не вядзьмаркі, «з зацемненым розумам фанатычкі, ахвярамі магіі якой станавілася не адна душа, не

пабачыўшы свету», то ў апісанні Насовіча гэта мудрая і вопытная жанчына, якая ўсе намаганні прыкладала да таго, каб і для парадзіхі, і для дзіцяці працэс нараджэння прайшоў як мага лягчэй. Акрамя таго, пасля нараджэння дзіцяці бабка-павітуха разносіла суседзям і сваякам парадзіхі так званыя «радзіны» — спецыяльна спечаныя пернікі, якія абвяшчалі пра нараджэнне новага чалавека і як бы запрашалі ў адведкі.

Некаторыя звычаі і традыцыі ў зборніку Насовіча былі зафіксаваны ўпершыню. Напрыклад, ні ў адной з ранейшых фальклорна-этнаграфічных прац не быў апісаны абрад «муравін». Заключаўся ён у наступным. На другі дзень пасля хрэсьбін бабка-павітуха апырсквала кожнага, хто прыходзіў да маці і яе дзіця ў адведкі, так званай «мураванай вадой» (вада, якая засталася пасля мірапамазання дзіцяці). Госці ж павінны былі за гэта пакласці ёй на талерачку грошы.

Уключана ў працу таксама апісанне дастаткова рэдкага вясельнага абраду, сутнасць якога ў тым, што пасля першай чаркі за сталом маладая жанчына засцілала стол белай хусткай, на якую жаніх і нявеста складалі свае пярсцёнкі, пасля чаго дружкі браліся за канцы хусткі і ўздымалі яе высока над галовамі маладых з прывітальнымі воклічамі. Потым маладая жанчына надзявала пярсцёнак жаніха нявесце, а нявесты — жаніху. У канцы абрада малады праз свата павінен быў перадаць падарунак сваёй абранніцы.

Многія назіранні Насовіча над народнай паэзіяй карысныя для сучаснай фалькларыстыкі як сведчанні адукаванага і кваліфікаванага чалавека той эпохі. На высокую вартасць яго фальклорных прац указвае той факт, што нават праз паўтара стагоддзі яны не страцілі сваёй важнасці, а дзясяткі надрукаваных Насовічам тэкстаў увайшлі ў збор беларускага фальклору, выдадзены Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

## Ад слова да слоўніка

Пасля таго, як адстаўны настаўнік захапіўся айчынным фальклорам, ён распачаў актыўную працу па збіранні матэрыялу для слоўніка беларускай мовы. Сын вучонага ўспамінаў, што бацька заўсёды насіў з сабой аловак і сшытак, у які занатоўваў кожнае новае слова, пачутае ў працэсе зносін з беларусамі.

Калі Насовіч даслаў свае пробныя працы ў Імператарскую Акадэмію навук, рускія вучоныя звярнулі пільную ўвагу на яго зацікаўленасць беларускай мовай і яе лексікаграфічнай апрацоўкай. Слоўнік Івана Насовіча «Собрание белорусских слов по алфавиту», які зараз захоўваецца ў аддзеле рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі Санкт-Пецярбурга, стаў першай спробай кваліфікаванай сістэмнай апрацоўкі лексікі беларускай мовы. Менавіта ў ім Насовіч пачаў выпрабоўваць тыя метады лексікаграфавання, якія пазней выкарыстаў пры ўкладанні свайго славутага «Словаря белорусского наречия» і якія ўрэшце сталі класічнымі метадамі слоўнікавай сістэматызацыі лексікі.

У прадмове да «Собрания...» Насовіч выказаў свае меркаванні адносна паходжання некаторых беларускіх слоў. Ён вылучыў групу лексікі беларускай мовы, утворанай ад гукаперайманняў, групы слоў з рускімі і славянскімі каранямі, запазычанні з іншых моў, а таксама ўласнабеларускія словы, якія і былі ўключаны ў «Собрание...».

Аўтар адзначаў, што не лічыць сваю працу поўнай, паколькі для стварэння дасканалага збору беларускіх слоў трэба выкарыстаць матэрыял не з адной пэўнай мясцовасці, а з усёй тэрыторыі Беларусі, бо нават кожны павет можа мець свае ўласныя моўныя асаблівасці. «Собрание белорусских слов по алфавиту» складаецца з 56 старонак і ўключае 224 слоўнікавыя артыкулы. У яго ўвайшлі агульныя і ўласныя імёны, гукаперай-

мальныя словы, выклічнікі, часткова — устойлівыя выразы. Фразеалагізмы ў працы звычайна перакладаліся на рускую мову або тлумачыліся (праўда, дастаткова вольна).

**Кошели плесть** — врать.

**Чубы дзелить** — драться между собой.

У рэдкіх выпадках аўтар апісваў сітуацыі, пры якіх можа выкарыстоўвацца той або іншы фразеалагізм.

Па словах вядомага даследчыка гісторыі беларускай лексікаграфіі Мікалая Гуліцкага, перад укладальнікам стаяла шмат розных праблем, і перш за ўсё праблема рэестру: як быць са словамі, вытворнымі ад загаловачнага, як падаваць словы з памяншальнымі і павелічальнымі суфіксамі, як будаваць артыкулы з мнагазначнымі словамі, дзе знайсці месца для марфалагічных і фанетычных варыянтаў слова? Некаторыя з гэтых пытанняў і сёння з'яўляюцца дыскусійнымі, таму можна ўявіць становішча ўкладальніка, які працаваў, не маючы дастатковага вопыту і кваліфікаваных навуковых кансультацый.

Словы ў «Собрании...» размешчаны ў алфавітным парадку. Выключэнне складаюць вытворныя адзінкі з выразнымі марфалагічнымі і сэнсавымі сувязямі, якія, каб пазбегнуць паўтораў у тлумачэннях, аўтар аб'яднаў у групы (слоўнікавыя гнёзды).

У гэтай працы Насовіч правільна вырашыў адну з найбольш складаных для тагачаснай лексікаграфіі задач — як падаваць у слоўніку мнагазначныя словы і амонімы.

Па-першае, выявіць у слове ўсе значэнні не заўсёды проста, па-другое, бывае амаль немагчыма адрозніць адценне значэння ад спецыфічнага ўжывання слова са звычайным значэннем або ад новага самастойнага значэння. З-за адсутнасці ў тагачаснай лексікаграфічнай практыцы агульнапрынятых падыходаў да адлюстра-

вання полісемантаў Насовіч афармляў іх у слоўніку неаднатыпна. Часам ён змяшчаў у слоўнікавым артыкуле спачатку асноўнае значэнне слова, а затым другаснае, не размяжоўваючы іх лічбамі, часам асноўнае значэнне апускаў, відаць, як відавочнае, а занатоўваў толькі другаснае значэнне.

**Цецера** — тетёрка и бранное слово ротозей.

**Бандура** — бранное слово, великий дурак и неуклюжий в возрасте.



СЛОВАРЬ

БѢЛОРУССКАГО НАРѢЧІЯ.

Натуральна, добры знаўца народнай культуры, Іван Насовіч не мог не ведаць, што бандура — назва струннага шчыпковага інструмента старажытнага паходжання.

Лексікографы адзінадушна прызнаю́ць, што ў практыцы ўкладання слоўнікаў адной з найбольш складаных праблем з'яўляецца адлюстраванне амонімаў. Словы, якія аднолькава гучаць, часцей за ўсё ўтвараюцца ў выніку распаду мнагазначнасці, таму граніцы паміж полісеміяй і аманіміяй няўстойлівыя, рухомыя. Укладальніку слоўніка часта бывае цяжка вызначыць, дзе заканчваецца мнагазначнасць і пачынаецца аманімія. Насовіч з вырашэннем гэтай задачы справіўся ўзорна: амонімы ў «Собрании» падаваліся ў асобных слоўнікавых артыкулах (як гэта робіцца ў сучасных слоўніках).

**Полоник** — чумичка, разливная деревянная ложка, половник.

**Полоник** — головастик, из которого образуется лягушка.

Усе варыянты слоў (фанетычныя і марфалагічныя) Насовіч уключыў у адзін слоўнікавы артыкул з агульным загалоўкавым словам: *блазен* і *блазён*, *крупеня* і *крупник*, *скаголиць* і *скуголиць* і інш. Да адсылачных артыкулаў, з дапамогай якіх прынята сёння фіксаваць варыянты, ён звяртаўся нячаста. Але ўжо сам той факт, што навуковец не размяжоўваў варыянтныя найменні па розных слоўнікавых артыкулах, сведчыць пра яго філалагічную знаходлівасць і неаспрэчны талент.

Беларускія словы Іван Насовіч дастаткова ўдала перакладаў на рускую мову, а пры неабходнасці даваў ім апісальныя характарыстыкі.

**Аргуш** — лист вообще бумаги, жести и проч.

**Юдить** — поступать лукаво.

Часта пры тлумачэнні слоў даследчык звяртаўся да этымалагічнага аналізу. Многія этымалагічныя даведкі аўтара, сапраўды, былі слушнымі. Напрыклад, ён пісаў, што слова *балазе* (добра, лепш) паходзіць ад славянскіх слоў *благо*, *блазе*. *Разынкі* — ад французскага *raisin*. *Паклёп* утворана ад *клепать*, *клеветать*.

У слоўніку выкарыстана распрацаваная Насовічам сістэма граматычных і стылістычных памет (праўда, не заўсёды паслядоўна). Паколькі XIX стагоддзе — гэта перыяд зараджэння беларускай навуковай лексікаграфіі, многія паметы Насовіча больш нагадвалі аўтарскія заўвагі, якія ўзніклі ў працэсе працы над слоўнікам. Побач з некаторымі словамі аўтар змяшчаў указанне на часціну мовы, часам пазначаў сферу ўжывання слова, спрабаваў размяжоўваць словы паводле стылістычных паказчыкаў.

**Бамбиза** — бранное слово на возрастного, неуклюжего.

**Годовины** — м. ч. годичное поминовение по умершем и годичное условие.

**Чужаница** — общ. р. чужой, чуж чужаница — совершенно чужой.

У асобных слоўнікавых артыкулах «Собрания белорусских слов по алфавиту» выкарыстоўваўся арыгінальны ілюстрацыйны матэрыял, якому іншыя ўсходнеславянскія лексікографы на той час яшчэ не надавалі вялікага значэння. Зразумела, што Насовіч, які толькі пачынаў свой шлях у прафесійнай лексікаграфіі, не мог прыйсці да думкі пра неабходнасць уключэння прыкладаў-ілюстрацый у невялікі слоўнік, аднак інтуітыўна, відаць, адчуваў, якое значэнне для правільнага разумення слова мае адлюстраванне яго ў жывой маўленчай стыхіі. У артыкулах, што ўключалі ілюстрацыйны матэрыял, змешчаны выразы з дыялектнага маўлення, вытрымкі з вуснай народнай творчасці.

**Бурколка** — детская игрушка, производящая урчанье; в переносном смысле уста, как орудие ворчания. *Не бурчи, а то бурколку побью. — Не ворчи, не то по губам достанешь.*

**Уежно** — нар. довольствие. *Не уежно, дак улежно. — Хотя не доешь, так выспишься. Не сыто, по крайней мере спокойно.*

З пункту гледжання мовазнаўства XXI стагоддзя «Собрание белорусских слов по алфавиту» — гэта далёкая ад дасканаласці спроба лексікаграфічнай апрацоўкі лексікі. Аднак варта памятаць, што гэтая праца была адной з першых у гісторыі новай усходнеславянскай лексікаграфіі і стваралася ў многім інтуітыўна, ва ўмовах адсутнасці агульнапрынятых прынцыпаў слоўнікавага апісання. Разам з тым аўтар здолеў вытрымаць усе асноўныя патрабаванні да складання слоўнікаў. Для

сучасных лексікографаў гэтая праца дае магчымасць прасачыць, як развівалася беларуская лінгвістычная навука, як удасканальваліся метады апрацоўкі моўнага матэрыялу і якімі былі вытокі слоўнікавай справы на Беларусі.

Насовічаў збор беларускіх слоў быў высока ацэнены акадэмікам Ізмаілам Сразнеўскім, які ўхваліў аўтара за выключную стараннасць, за жаданне і ўменне працаваць.

У сярэдзіне XIX ст. у картатэцы Насовіча ўжо была назапашана значная колькасць матэрыялу для стварэння аб'ёмнага збору лексікі беларускай мовы. У 1853 годзе ён даслаў у Імператарскую Акадэмію навук пробны сшытак з матэрыяламі слоўніка, каб атрымаць падтрымку прафесійных лінгвістаў у такой важнай для сябе справе. У Акадэміі гэтыя матэрыялы былі прынятыя прыхільна.

Пасля смерці Івана Грыгаровіча (1792—1862), які займаўся ўкладаннем для Імператарскай Акадэміі навук абласнога слоўніка беларускай мовы («Словарь западнорусского наречия»), аддзяленне меркавала прапанаваць гэтую працу Івану Насовічу, але некаторыя яго чальцы не далі згоды на такое рашэнне. Прычынай афіцыйнай адмовы стаў яго ўзрост.

Стварыць слоўнік беларускай мовы прапанавалі маладзейшаму вучонаму-беларусісту Станіславу Мікуцкаму (1814—1890).

Іван Насовіч не пагадзіўся з такім рашэннем аддзялення. Маючы добрае здароўе, ён адчуваў у сабе сілы ў поўным аб'ёме зрабіць гэтую складаную працу і працягваў дабівацца дазволу на яе выкананне. Тым не менш вучонаму дазволілі толькі скласці паказальнік старабеларускіх слоў, якія сустракаюцца ў помніку дзелавога пісьменства Вялікага Княства Літоўскага — пяцітомным зборы Актаў і грамат Заходняй Расіі XIV—XVIII стст.

## Гісторыя мовы па алфавіце

Стварэнне паказальніка беларускіх слоў са старадаўніх дакументаў было працай надзённай, неабходнай і дастаткова адказнай. Справа ў тым, што з канца XVIII ст. адзначалася ўзнікненне навуковага інтарэсу і інтэнсіўнае вывучэнне гісторыі і этнаграфіі Беларусі. У гэты час рускія і польскія даследчыкі адшукалі і апублікавалі разнастайныя старадаўнія дакументы, пераважна акты і граматы, пры вывучэнні якіх можна было зрабіць важныя вывады пра грамадска-палітычнае і эканамічнае жыццё беларусаў у перыяд знаходжання беларускіх зямель у складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Найбольш важнымі з іх былі ўзгаданыя Акты. Археаграфічная камісія, якая ажыццяўляла выданне, друкавала акты без перакладу на сучасную для выдаўцоў мову, захоўваючы арфаграфічныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці арыгіналаў, што ў сваю чаргу рабіла складаным вывучэнне гэтых дакументаў і патрабавала дадатковай расшыфроўкі.

Напісанне працы «Алфавитный указатель старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных Археографическою комиссиею», заняло ў даследчыка амаль тры з паловай гады. Пры гэтым ён не пераставаў займацца збіраннем і апрацоўкай матэрыялаў для слоўніка беларускай мовы.

Найбольш складаным для Насовіча пры састаўленні «Алфавитного указателя...» было тое, што да гэтага часу ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве не існавала ніводнага падобнага слоўніка, адпаведна не былі распрацаваны метады і прынцыпы яго стварэння. Насовіч пісаў:

> Прысвяціўшы дні і нават ночы майго вольнага ад усіх службовых заняткаў жыцця, я каля трох з паловай гадоў выкарыстаў на выкананне ўскладзенай на мяне

працы, даражыў кожнай хвілінай, каб на старасці маіх гадоў пачатае мною не засталося незакончаным. Гэта мая засцярога прымусіла мяне весці жыццё адзінокае, працоўнае, у барацьбе з невымоўнымі цяжкасцямі.

Аднак, нягледзячы на ўсе акалічнасці, гэтае выданне было ў значнай ступені больш дасканалым у параўнанні з яго першай лексікаграфічнай спробай. Вучоны выправіў шматлікія хібы, больш глыбока распрацаваў методыку складання слоўнікаў і спосабы лексікаграфічнага апісання лексікі.

«Алфавитный указатель...» Насовіча налічвае 1110 старонак вялікага фармату — 555 лістоў, з якіх 551 займаюць матэрыялы слоўніка. У прадмове да рукапісу аўтар сцісла расказаў пра гісторыю ўзнікнення слоўніка, назваў прынцыпы, якімі ён кіраваўся пры стварэнні «указателя»:

> У складзеным мною паказальніку я палічыў неабходным, кіруючыся лексікаграфічнай практыкай, пры кожным слове паказваць: 1) агульнае граматычнае, у скарочаным выглядзе, вызначэнне яго; 2) дзе патрабавала неабходнасць, паходжанне слова з другой мовы або корань яго; 3) значэнне слова ў рускай мове; 4) для лепшай зверкі слова з яго значэннем падаюцца кароткія, у выглядзе прыкладаў, выпіскі з актаў, з указаннем тома, года актаў, старонкі, слупка і радка месца, адкуль выпісана слова.

Выбар слоў для ўключэння ў «Алфавитный указатель...» Насовіч праводзіў, кіруючыся прынцыпам суадноснасці лексікі ў старажытных беларускіх дакументах са словамі сучаснай для навукоўца рускай літаратурнай мовы. Старaславянскія і агульнаўсходнеславянскія словы, якія ўжо змяшчаліся раней у асобных зборах лексікі, а таксама словы, якія захаваліся ў рускай мове і ўжываліся з тым жа значэннем, ён не

уключыў у сваю працу: напрыклад, *берегъ*, *бити*, *война*, *годъ*, *дворъ*, конь, *ловити*...

Разам з тым, у паказальнік увайшлі старадаўнія словы, якія ёсць у рускай мове, але ў актах ужываюцца з іншымі значэннямі. У такіх выпадках Насовіч занатоўваў толькі дадатковыя значэнні: *бегъ* — цячэнне, ход, парадак; *голова* — 1) чалавек, 2) смерць, забойства, 3) асоба, 4) аснова; *духъ* — проламка ў лёдзе для лоўлі рыбы; *камень* — мера вагі і г. д. У працы шырока прадстаўлены словы, якія ў XIX стагоддзі ўжо не выкарыстоўваліся ва ўсходнеславянскіх мовах, але былі пашыраны ў мове старажытных беларусаў: *божница* — царква, храм; *братанна* — дачка брата, пляменніца; *вуй* — дзядзька па маці; *гаковница* — род агнястрэльнай зброі і іншыя.

У «Алфавитный указатель...» уключана каля 13 тысяч лексічных адзінак. Пераважная большасць з іх — уласнабеларуская лексіка. Частка — запазычанні з польскай і іншых еўрапейскіх моў, а таксама вытворныя ад іх словы. З іх 11100 — агульныя імёны, звыш 600 — словы-варыянты, каля 100 — уласныя імёны і 20 геаграфічных назваў, якія ў старабеларускай мове ўжываліся ў іншай форме: *Гомеи* — *Гомель*, *Дунемборкъ* — *Динобург*, *Пинескъ* — *Пинск*, *Полтескъ* — *Полоцк* і інш. Да тапонімаў аўтар часам падаваў прыметнікі, утвораныя ад гэтых назваў: *лунскій* — лонданскі, *колмацкій* — калмыцкі, *любельскій* — люблінскі і іншыя.

З ліку асабовых імёнаў у рэестр увайшлі галоўным чынам гутарковыя варыянты афіцыйных формаў: *Васко* — *Васілій*, *Костюкъ* — *Кастанцін*, *Олехна* — *Вольга*, *Сенко* — *Сямён* і г. д.

Усе словы паказальніка размешчаны ў алфавітным парадку. Загалоўныя словы пададзены ў пачатковай форме: назоўнікі, займеннікі, прыметнікі і дзеепрыметнікі — у форме назоўнага склону адзіночнага ліку, дзеясловы — у форме інфінітыва.

Адметнасць слоўніка ў тым, што ўкладальнік часам уключаў у яго формы ўскосных склонаў (*день* — дзён, *поль* — палёў), што можа быць патлумачана жаданнем палегчыць чытачам разуменне тых граматычных структур, якія прыкметна адрозніваюцца ад прыведзеных формаў рускай мовы. Гэтым жа абгрунтоўваецца наяўнасць многіх дзеяслоўных формаў, уключаных у рэестр «Алфавитного указателя...»: (*болитъ* і *болело*, *деется* і *деелося*, *може* і *могти* і інш.), формаў вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання прыметнікаў (*мней* і *мнейшій*, *найглубей*, *найласкавый* і інш.), а таксама памяншальныя формы назоўнікаў (*ватажка* — ад *ватага*, *ведерко* — ад *ведро*, *озерко* — ад *озеро* і г. д.). У рэестр слоўніка вынесена значная колькасць устойлівых спалучэнняў слоў і фразеалагізмаў: *волею своею*, *дати вину кому*, *медовый старецъ*, *молчание творити* і інш.


СБОРНИКЪ
БѢЛОРУССКИХЪ ПОСЛОВИЦЪ,
САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

Важнай праблемай, з якой сутыкнуўся Насовіч пры ўкладанні «Алфавитного указателя...», стала тое, што акты і граматы, якія адносіліся да розных часоў стварэння, уключалі варыянтныя напісанні адных і тых жа слоў (*бордзо*, *борздо*, *борзо*; *ледве*, *ледво*; *мейсце*, *местце* і інш.).

Чалец-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аркадзь Жураўскі (1924—2009) пісаў, што праблема варыянтаў значна ўскладняецца ў слоўніках, якія

змяшчаюць у сабе лексічны матэрыял розных эпох: у адну эпоху з ліку некалькіх формаў найбольш пашыраным можа быць такі варыянт, які ў далейшым уступае месца іншаму і становіцца мала пашыраным або знікае зусім. У такіх выпадках вызначыць з некалькіх варыянтаў які-небудзь асноўны практычна немагчыма і зусім не абгрунтавана ў навуковых адносінах. З другога боку, было б неапраўдана кожны такі варыянт падаваць у самастойных артыкулах.

З акрэсленай праблемай Насовіч справіўся найлепшым чынам. Большасць варыянтных формаў ён уключыў у слоўнікавыя артыкулы побач і прапанаваў для іх агульнае тлумачэнне. У дачыненні да тых формаў, якія знаходзяцца па алфавіце далёка адна ад другой, навуковец выкарыстаў сістэму адсылачных артыкулаў, якая, дарэчы, з'яўляецца агульнапрынятай у сучасным мовазнаўстве.

Да загалоўкавага слова падавалася граматычная інфармацыя: часціна мовы, род, канчатак роднага склону і варыянтныя канчаткі — для назоўнікаў, трыванне — для дзеясловаў, канчаткі першай асобы адзіночнага ліку ў выпадку, калі асновы інфінітыва і цяперашняга часу значна адрозніваюцца, і інш. Пазначаны канчаткі роднага склону прыметнікаў, утвораных ад назоўнікаў, пры прыслоўях і прыметніках прыведзены формы вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання.

Да абсалютнай большасці слоў, змешчаных у «Алфавитном указателе...», Насовіч паслядоўна падаваў тлумачэнні. Асобныя словы (напрыклад, *гарливый*, *гуляйгородъ*, *колтришъ*, *часлетъ*), праўда, засталіся не патлумачанымі з прычыны таго, што ўкладальнік не меў патрэбных слоўнікаў для раскрыцця іх сэнсу. Значэнні некаторых слоў выводзіліся з кантэкстаў, а тыя лексічныя адзінкі, якія, па меркаванні аўтара, і так добра ўсім вядомыя, не суправаджаліся прыкладамі з актаў і грамат.

Тлумачэнне слоў найчасцей адбывалася шляхам падбору лексічных адпаведнікаў з рускай мовы. Акрамя таго, Насовіч фіксаваў прыклады ўжывання слова ў актах і граматах з указаннем тома, старонкі, слупка і радка, дзе заходзіцца адпаведнае слова.

*Апелевати* і *апеллевати*, *-люю*, дзеяс. юрыд. Пераносіць скаргу з ніжэйшага ў вышэйшае судовае месца. *Вольно будетъ кождому отъ лентъ-войта до войта и отъ войта до насъ апеллевати.* III, 1577 г., 204-2-5. Пар. 1581 г., 262-2-4. *От декрету комиссарского апелевати передъ паны поссесоры.* IV, 1594 г., 72-2-22.

*Паробокъ*, *-бка*, н. 1) Работнік, чорнарабочы. *О паробкахъ а любо о жонках невольныхъ.* I, 1420—1423 гг., 41-1-41. *Коли чіи паробъки украдуть што.* I, 1468 г. 82-2-9; 2) Зневажальная назва служак. Нізкі, невук. *Однымъ паробкомъ какая школа государю учинити?* I, 1501—1503 гг., 244-1-17. *Собравшися зъ лихими людьми, таковыми жъ смерды паробки.* II, 1508 г., 44-1-3. Пар. 1509 г., 68-2-15; 3) Служка. *Отъ воеводы Московского побегли паробци и нашли ихъ въ Кричове.* II, 1511 г., 99-1-2.

Да многіх слоў навуковец падаваў этымалагічную інфармацыю. Часцей за ўсё гэта было толькі ўказанне на мову, з якой запазычана слова. Значная колькасць лацінізмаў суправаджалася лацінскімі этымонамі — словамі ў тым выглядзе, у якім яны існуюць у лацінскай мове: *везитовати* (ад лац. visito), *кооперація* (ад лац. cooperatio), *ляментовати* (ад лац. lamentare)... Аўтар імкнуўся характарызаваць словы з пункту гледжання іх стылістычнай афарбоўкі, ён шырока выкарыстоўваў паметы *царк.* (царкоўнае) і *юрыд.* (юрыдычнае), спецыфічнымі паметамі суправаджаў памяншальна-ласкальныя і зневажальныя формы слоў.

Праўда, на думку беларускіх лінгвістаў Аркадзя Жураўскага і Івана Крамко (1931 г. н.), сур'ёзным неда-

хопам «Алфавитного указателя...» стала тое, што ўкладальнік, каб скараціць аб'ём артыкулаў, часта прыводзіў урыўкі з актаў у падрэдагаваным выглядзе, але ніякім чынам гэтага на пазначаў графічна. Таму цытаты з актаў, уключаныя ў слоўнік, не заўсёды даюць дакладнае ўяўленне пра сапраўднае ўжыванне слова ў пісьмовым маўленні.

Працуючы доўгі час з актамі і старажытнай беларускай лексікай, Насовіч зразумеў, што ў зборы актаў не зафіксаваны многія словы, якія, на яго думку, павінны былі абавязкова існаваць у старажытнай беларускай мове. Спіс такіх слоў пад назвай «Извлечение из алфавитного указателя старинных слов, которые по словопроизведению должны были существовать, хотя в Актах западной России их не имеется» ён падрыхтаваў у 1858 годзе і даслаў яго ў Акадэмію навук у якасці дапаўнення да свайго рукапісу. Дадатак уключаў 14 старонак (1086 слоў), якія не ўвайшлі ў акты, але шырока бытавалі ў жывых народных гаворках.

Такім чынам, падрыхтаваны Насовічам слоўнік старажытнай беларускай лексікі стаў своеасаблівым правадніком па граматах і старадаўніх дакументах, спрашчаў іх чытанне і разуменне. Па сутнасці «Алфавитный указатель...» з'яўляецца першым ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве ўзорам стыхійнага выкарыстання структурнага аналізу пры гістарычным вывучэнні лексікі. Гэта важна перш за ўсё таму, што такое даследаванне было ажыццёўлена беларускім вучоным звыш 150 гадоў назад, хаця і тэарэтычныя асновы, і шырокае практычнае выкарыстанне структурны аналіз у лексікаграфіі атрымаў толькі ў сярэдзіне XX ст.

Для ацэнкі гэтай працы Насовіча была сфарміравана спецыяльная камісія, у склад якой увайшлі акадэмікі Аляксандр Вастокаў (1781—1864), Міхаіл Каркуноў (1806—1858) і Ізмаіл Сразнеўскі. Камісія высока ацаніла

слоўнік, створаны беларускім лексікографам: за «Алфавитный указатель старинных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных Археографическою комиссиею» (па сутнасці, першы гістарычны слоўнік беларускай мовы) Іван Насовіч быў узнагароджаны прэміяй графа Уварава, а за агульныя навуковыя заслугі — ордэнам святога Станіслава другой ступені.

Ізмаіл Сразнеўскі быў так уражаны вынікамі дзейнасці Насовіча, што пагадзіўся адрэцэнзаваць «Алфавитный указатель...» у друку. Ён пісаў, што гэтая праца, выкананая з рэдкім цярпеннем, добрасумленнасцю і веданнем справы, значна палегчыць далейшае вывучэнне беларускіх дзелавых помнікаў, якія з'яўляюцца найважнейшай крыніцай ведаў пра гісторыю Беларусі.

Такая высокая ацэнка дзейнасці Насовіча з боку Сразнеўскага — гэта не толькі заахвочванне да даследавання беларускай мовы, на якую многія філолагі ў той час не звярталі належнай увагі, але і прызнанне навуковага ўзроўню і таленту мовазнаўцы-аматара, які ўпэўнена і хутка наблізіўся да найбольш важнай справы свайго жыцця — укладання найлепшага слоўніка беларускай мовы XIX ст.



*Акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі (1812—1880)*

Нягледзячы на безумоўную навуковую вартасць і арыгінальнасць, алфавітны паказальнік старадаўніх слоў Насовіча так і не быў апублікаваны...

Працуючы над «Алфавитным указателем...», Іван Насовіч дасканала авалодаў майстэрствам лексікографа, набыў вопыт выяўлення, сістэматызацыі і тлумачэння значэнняў слоў, выпрацаваў асноўныя крытэрыі адбору лексікі і план стварэння слоўніка жывой народнай мовы.

Нарэшце ў 1861 годзе, прыклаўшы шматлікія намаганні, Насовіч дабіўся таго, што Імператарская Акадэмія навук прапанавала яму прадставіць сваю шматгадовую працу на конкурс для атрымання Дзямідаўскай прэміі. Умовай атрымання прэміі было завяршэнне слоўніка і яго публікацыя. У выніку «Словарь белорусского наречия» быў прадстаўлены Акадэміі ў поўным аб'ёме і надрукаваны яе коштам у 1870 годзе ў славутай друкарні Імператарскай Акадэміі навук на Васільеўскім востраве. У якасці ганарару аўтар атрымаў 100 асобнікаў сваёй працы і Дзямідаўскую прэмію*.

Праца над слоўнікам заняла ў аўтара 16 гадоў жыцця, але вынік аказаўся настолькі значным, што нават сёння яго цяжка пераацаніць.

Пры ўкладанні слоўніка Насовіч ставіў перад сабой мэту стварыць лексікаграфічнае выданне, якое б уключала ўсе адрозныя ад рускіх словы беларускай гаворкі (якая тады большасцю навукоўцаў разглядалася як частка велікарускай мовы). Таму ў «Словаре...» не зафіксаваны ўсе тыя лексічныя адзінкі, што з'яўляюцца агульнымі для рускай і беларускай моў. Пры адборы

* Дзямідаўская прэмія для вучоных была заснавана ў 1831 г. уральскім прамыслоўцам, камергерам двара Яго Імператарскай вялікасці і мецэнатам Паўлам Мікалаевічам Дзямідавым (1798—1840). Штогод на прэміі вылучалася 20.000 рублёў дзяржаўнымі асігнацыямі, а само права прысуджэння ўзнагарод мецэнат прадаставіў Расійскай Імператарскай Акадэміі навук. Прэмія прысуджалася штогод (да 1866 года) 17 красавіка — у дзень нараджэння імператара Аляксандра II — і лічылася найбольш ганаровай няўрадавай узнагародай Расіі.

лексікі вучоны абапіраўся на чатырохтомны «Словарь церковнославянского и русского языка», складзены Другім аддзяленнем Імператарскай Акадэміі навук у


Явка Тимирiевскаго Словаря
по выходѣ изъ печати къ своему
въ Мстиславлѣ Автору.

Словарь

Здоровъ, пане!

Авторъ

Ба! изъ Петербурга
[illegible]

Словарь

[illegible]

Авторъ

[illegible]

*Аўтограф Івана Насовіча: верш-эпіграма, прысвечаны публікацыі «Словаря белорусского наречия»*

1847 годзе. Калі слова ў названым выданні не было, то Насовіч уключаў яго ў свой слоўнік.

Паводле сучаснай лексікаграфічнай класіфікацыі, прапанаванай расійскім акадэмікам Львом Шчэрбам (1880—1944)*, слоўнік Насовіча адносіцца да дыферэнцыйных выданняў, якія даюць не поўнае ўяўленне пра лексічны склад мовы, а прадстаўляюць пэўную яго частку, у дадзеным выпадку — уласнабеларускую лексіку. Побач з беларускімі словамі ў выданне ўключана каля тысячы слоў, запазычаных беларускай мовай з іншых моў.

Натуральна, што ў слоўніку не адлюстравана ўся дыялектная лексіка беларускай мовы. У працы прадстаўлены лексічны матэрыял, сабраны ў асноўным у Магілёўскай губерні, дзе жыў Іван Іванавіч, у меншай ступені — у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях.

Пры ацэнцы здзейсненага Насовічам трэба ўлічваць той факт, што ў сярэдзіне XIX ст. усходняя частка Беларусі была найбольш паказальная ў этнаграфічным плане, а ў маўленні яе жыхароў былі дастаткова поўна прадстаўлены многія найважнейшыя асаблівасці беларускай мовы. У сваім артыкуле «Опыт краткого филологического наблюдения о белорусском наречии» Іван Іванавіч звярнуў увагу на тое, што мясцовыя гаворкі Магілёўскай губерні з'яўляюцца найбольш незасмечанымі паланізмамі — у адрозненне ад не такіх «чыстых» гаворак Мінскай і Віленскай губерняў.

У якасці фактычнага матэрыялу для слоўніка аўтар шырока выкарыстоўваў не толькі жывое маўленне сваіх рэспандэнтаў, але і старабеларускія пісьмовыя помнікі, акты, граматы, перыядычны друк, часткова — лексікаграфічныя работы па рускай мове.

Крыніцамі матэрыялу для «Словаря...» паслужылі ўжо створаныя Насовічам «Алфавитный указатель ста-

* Дарэчы, Шчэрба таксама быў беларус, ён нарадзіўся ў Ігумены, зараз гэта Чэрвень у Мінскім раёне. — *Рэд.*

рынных слов, извлеченных из «Актов, относящихся к истории Западной России», изданных Археографическою комиссиею», «Собрание белорусских слов по алфавиту», слоўнікі-дадаткі да фальклорных зборнікаў, а таксама працы І. Грыгаровіча і С. Мікуцкага.

Такім чынам, «Словарь белорусского наречия» стаў самай вялікай па аб'ёме лексікаграфічнай працай XIX ст., прысвечанай апісанню беларускай лексікі. У Слоўніку налічвалася 30 тысяч рэестравых слоў, што ў дзясяткі разоў больш, чым у «Словаре белорусского наречия» П. Шпілеўскага (1845), слоўнікавых падборках Я. Чачота (1846), «Словаре западнорусского наречия» І. Грыгаровіча (1850—1851), «Белорусских словах» С. Мікуцкага (1854).

Па словах Аляксандра Крывіцкага, «Словарь белорусского наречия» Івана Насовіча — вельмі важны і значны папярэднік сучасных слоўнікаў беларускай літаратурнай мовы. Гэты лексікаграфічны твор шырока і грунтоўна раскрыў лексічныя багацці беларускай мовы як пэўнай этнагістарычнай агульнасці яе гаворак, зрабіў адчувальны ўплыў на фарміраванне слоўнікавага складу нацыянальнай мовы беларусаў наогул.

Выданне Насовіча істотна адрознівалася ад усіх падобных слоўнікаў таго часу не толькі колькасцю прадстаўленага ў ім матэрыялу, але і ўзроўнем навуковай апрацоўкі лексікі. Многія аўтарытэтныя вучоныя-сучаснікі Івана Насовіча прызналі яго лексікаграфічную працу ўзорнай не толькі сярод беларускіх, але і ў шэрагу аналагічных рускіх выданняў.

Іван Іванавіч імкнуўся максімальна прытрымлівацца ўсіх лепшых традыцый, якія склаліся ў тагачасным мовазнаўстве, і арыентаваўся на такія капітальныя выданні, як «Словарь церковнославянского и русского языка, составленный Вторым отделеннем императорской Академии наук» (1847) і «Опыт областного великорусского словаря» (1852).

Слоўнік планаваўся як нарматыўнае выданне. Таму ў рэестравых словах адзначаліся доўгія і кароткія склады, былі ўведзены спецыяльныя знакі скарачэння, націску і іншае. Словы ў рэестры размешчаны групамі (словаўтваральнымі гнёздамі) у алфавітным парадку. Іменныя часціны мовы пададзены ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку, прыметнікі — пераважна ў форме мужчынскага роду, дзеясловы — у форме інфінітыва.

У слоўнікавы артыкул уключаны ўсе фармальныя варыянты слова. Прычым, у параўнанні з папярэднімі сваімі лексікаграфічнымі працамі, Насовіч поўнасцю распрацаваў метады апісання варыянтаў: ён ужо не змяшчаў іх у адным агульным слоўнікавым артыкуле, як гэта было раней. Цяпер кожны марфалагічны і фанетычны варыянт уключаўся ў рэестр слоўніка і афармляўся асобным слоўнікавым артыкулам з адсылкай да асноўнага слоўнікавага артыкула. Выключэнне было зроблена хіба што для некалькіх варыянтных пар, якія падаваліся ў адным слоўнікавым артыкуле: *и́менне* і *име́нне*, *перешвы́ргаць* і *перешвырга́ць*, *трудо́ваный* і *трудова́ный* і інш.; *зева́йла* і *зева́йло*, *назнаро́ку* і *назнаро́ки*, *ся́нни* і *ся́ння* і г. д.

Беларускія словы ў выданні перадаваліся Насовічам паводле правіл рускай арфаграфіі, аднак аўтар адлюстроўваў і найбольш важныя беларускія асаблівасці ў галіне фанетыкі (дзеканне і цеканне, падаўжэнне зычных і інш.), якія пазней сталі нормай літаратурнай мовы: *тули́цьца*, *укороци́ць*, *ца́цканне*, *шлу́нне* і іншае.

Насовіч распрацаваў дасканалую сістэму граматычных памет, чым слоўнік у значнай ступені адрозніваецца ад усіх папярэдніх слоўнікаў беларускай мовы, у якіх такая характарыстыка практычна адсутнічае. З дапамогай памет указвалася часціна мовы, да якой адносіцца слова (*с.* — назоўнік, *гл.* — дзеяслоў, *нар.* — прыслоўе і г. д.). Як і ў сучасных слоўніках, пазначаўся род назоўнікаў (*м.* —

мужчынскі, *ж.* — жаночы, *ср.* — ніякі), паказваліся канчаткі назоўнікаў у родным склоне адзіночнага ліку, у некаторых выпадках — іншыя склонавыя канчаткі. Для дзеясловаў прыведзены канчаткі першай і другой асобы адзіночнага ліку, пазначана трыванне, стан (*д.* — незалежны, *стр.* — залежны) і некаторыя іншыя граматычныя прыметы.

Да асобных прыметнікаў прапанаваны формы ступеняў параўнання (*найвыборный* і *найвыборнейшій*, *плóхій* і *плóхшій*, *трвáлый* і *трвáльшій*).

У шэрагу слоўнікавых артыкулаў Насовіч зрабіў удакладненні адносна словазмянення, пераходу націску і падзяжоў: *как и в Русскомъ, различаясь въ косвенныхъ падежахъ удареніемъ, обще употребляемый только въ прошедшемъ времени.*

Праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля публікацыі слоўніка прапанаваная навукоўцам сістэма граматычных памет дала багаты фактычны матэрыял для выпрацоўкі асноўных палажэнняў беларускай граматыкі.

У XIX ст. дастаткова складанай задачай для аўтара слоўніка было апісанне значэння лексічных адзінак. У сувязі з тым, што прафесійная лексікаграфія толькі пачынала зараджацца, вучоным не хапала тэарэтычных распрацовак, у якіх бы абгрунтоўвалася сістэма метадаў лексікаграфавання. Усведамляючы ўсю навізну і складанасць працы, Насовіч разумеў, што выяўленне семантыкі слова заключаецца ў тым, каб дакладна вызначыць канкрэтныя значэнні слоў і размежаваць іх з выпадкамі нестандартнага ўжывання лексем. Таму на першае месца ў слоўнікавых артыкулах ён паставіў тыя значэнні, якія палічыў больш даўнімі, а далей падаваў пераносныя і вытворныя.

**ОБЛУПЁЖИЦЬ**, сов. глагола д. Лупежить. 1) Ободрать, облупить. Облупежить *липу, берёзу.* 2) Содрать кожу, наказывая. Будешь збродоваць, покуль облупежуць спину. 3) Ободрать, снять одежду, ограбить. Облу-

пежили беднаго въ лесу, въ одной сорочце заставили. 4) Обыграть. Облупежили его хорошенько и коника взяли.

**ПОДЦУ́КИВАЦЬ**, однокр. Подцукнуць, гл. д. 1) букв. Побуждать собакъ кусать или рвать, произнося: цу-цу-цу, ускать. На што ты на человека подцукиваешь, подцукнувъ собакъ. 2) перен. Настроивать кого, подстрекать. Мене подцукивашъ гето сказать; чему жъ самъ не скажешъ. Самъ не хотевъ зачепицьца, дакъ другого поднукнувъ.

Пры супастаўленні адпаведных слоўнікавых артыкулаў у працы Станіслава Мікуцкага «Белорусские слова» і ў «Словаре белорусского наречия» Івана Насовіча становяцца абсалютна відавочнымі ўсе перавагі Насовічавага слоўніка.

| У Мікуцкага | У Насовіча |
|---|---|
| Загвоздка, и, с. ж. Чека. | Загво́здка, и, с. ж. 1) Чека у колесной оси. Загвоздку поцеряешъ. 2) Трудная задача. Давъ загвоздку, нехай раскусиць. 3) Препятствіе. Во тобе загвоздка, и стой на дорозе. |
| Келзаць, заю, заешъ (сов. закелзаць), гл. д. Взнуздывать, взнуздать.14 | Кёлза́ць, сов. Закелза́ць, гл. д. 1) Взнуздывать, мундштучить. Кореннаго келзай, закёлзай коня, а ворчаковаго не треба кёлзать. 2) перен. Ограничивать чью либо волю, закабаливать. Хочешъ не хочешъ, а кёлзаюць въ работники. Не люблю гетой девки, да бацьки келзаюць. |

Параўнанне слоўніка Насовіча са слоўнікам Грыгаровіча дае тыя ж вынікі. Многія значэнні слоў у працы Насовіча ўдакладнены і палепшаны, для шматлікіх лексем складзены абсалютна новыя слоўнікавыя артыкулы.

Тлумачальная частка слоўніка ўключала ўсе магчымыя спосабы выяўлення семантыкі слова. Некаторыя словы перакладаліся на рускую мову адным адпаведнікам ці некалькімі сінанімічнымі адзінкамі. Часам навуковец падаваў да рэестравых слоў разгорнутыя тлумачэнні, як гэта рабілася ў большасці слоўнікаў XIX ст., прыводзіў этымалагічную інфармацыю і этнаграфічныя звесткі пра рэаліі і з'явы жыцця.

**ЖИ́ЖА**, и, с. ж. (Лит. zize — огонь, Слав. жизати) детск. 1) Огонь. Жижа кусь, не рушъ. 2) Человекъ пламеннаго характера, вспыльчивый. Ой ты жижа, все огнемъ смалишъ!..

**ИВА́НЪ КУПА́ЛА**, -а, -ы, с. м. По некоторымъ народнымъ песнямъ Іоаннъ Креститель, и въ особенности день рождества Іоанна Крестителя, празднуемый 24 Іюня. Въ этихъ песняхъ приписывается Ивану Купале: а) Плодородіе плелъ; б) Покровительство полевой ржи. *2) У простолюдиновъ есть поверье, что в ночь на 24 Іюня ведьмы отнимаютъ молоко у дойныхъ коровъ: почему женщины въ воротахъ хлева подвешиваютъ страстную свечу, веря, что ведьма не пройдетъ в ворота, где виситъ свеча, и искусаетъ ея. 3) Есть поверье, что солнце, появляясь на горизонте въ день рождества Іоанна Крестителя, играетъ, принимаетъ разные цвета и прыгаетъ в честь его.*

*Совнико, совнико, чему Иванова ночка не величка?*
*Совнико, совнико, бо ты рано всходишъ,*
*Совнико, совнико рано всходишъ, да играючи,*
*Совнико, совнико, играючи, Ивана взвеличаючи.*

Изъ куп. песни.

Пры тлумачэнні найменняў жывёльнага і расліннага свету І. Насовіч падбіраў не толькі рускія адпаведнікі, але і міжнародныя лацінскія тэрміны, што істотна павысіла навуковы ўзровень слоўніка.

**БА́БЬЯ КОРО́ВКА**, с. ж. Convallaria poligonatum, seu sigillum salomonis. Купена. Девичій корень.

**ГАЛУ́НЪ**, у, с. м. (Alumen). Квасцы.

Як ужо адзначалася, менавіта Насовіч у сваіх працах упершыню прапанаваў спосаб графічнага размежавання амонімаў і мнагазначных слоў. На той час гэта быў абсалютна інавацыйны падыход, але ён вытрымаў выпрабаванне часам і захаваўся да нашых дзён. Афармленне мнагазначных слоў і амонімаў у «Словаре...» можна назваць бездакорным.

Для характарыстыкі слоў Насовіч шырока выкарыстоўваў стылістычныя паметы. Ён размяжоўваў словы з памяншальнымі і павелічальнымі, ласкальнымі, змякчальнымі, зневажальнымі і іншымі адценнямі значэнняў. Напрыклад, з паметай *ласк.* (ласкальнае) навуковец падаў словы *бабу́лька, бра́цичекъ, ма́мочка* і інш., з паметай *бранное* ці *ругат.* (сварлівае) — словы *агу́ндеръ* (сабачы сын), *баби́ла* (марудлівы чалавек), *костолы́га* (плут) і інш.

Свае тлумачэнні слоў Насовіч часта суправаджаў ілюстрацыямі. Найгалоўнейшай крыніцай ілюстрацыйнага матэрыялу паслужыла народнапаэтычная творчасць — песні, казкі, прыказкі, прымаўкі і інш.

**БРА́ТКА**, и, с. м. ум. ласк. слова Братъ. Братецъ. Пожалей свойго братку.

*Я обеду не хоцела;*
*Цебе братку поглядзела.*
*Тобе, братка, повелося,*
*А мне горе приплелося.*

**ЗАГНЕ́ЦИКЪ**, а, с. м. умен. слова Загнетъ. Очажокъ при печи. Загнецикъ маленекъ.

*Стояла калинка скольки летъ;*
*Сечице, рубице на загнетъ;*
*Кабъ нашъ загнецикъ бывъ я́сенъ,*
*Кабъ коровай нашъ бывъ красенъ.* Изъ свад. песни.

**ЗДРА́ДНИКЪ**, а., с. м., и -ница, ы, с. ж. Изменникъ, -щица; обманщикъ, -щица. *Коли одному, дакъ и другому здрадникъ.* Своя жонка-здрадница выдала мене.

Адзін з найбольш аўтарытэтных сучасных фразеолагаў прафесар Іван Лепешаў (1924 г. н.) падкрэсліваў, што менавіта са слоўніка Насовіча бярэ пачатак беларуская фразеаграфія. Справа ў тым, што ў сваім выданні Насовіч упершыню настолькі шырока выкарыстаў беларускую фразеалогію, прычым не толькі ў якасці ілюстрацый. Каля 200 фразеалагізмаў ён вынес у рэестравую частку. Такі падыход да апісання фразеалагічнай лексікі для тагачаснага ўсходнеславянскага мовазнаўства быў наватарскім:

Калі І. І. Насовіч складаў свой слоўнік, яшчэ і гаворкі не было пра фразеалагізмы, не было ні ў рускай, ні ў зарубежнай лексікаграфіі ўзораў, як падаваць устойлівыя выразы з цэласнай семантыкай. І. І. Насовіч ішоў самастойным шляхам і даў такія ўзоры распрацоўкі фразеалагізмаў, якія ў многіх выпадках амаль нічым не адрозніваюцца ад сённяшніх фразеалагічных артыкулаў (І. Лепешаў).



Такі спосаб апрацоўкі ўстойлівых выразаў стаў значным крокам да стварэння самастойных фразеалагічных слоўнікаў.

Да фразеалагізмаў у «Словаре белорусского наречия» Насовіч падаваў тлумачэнні іх значэнняў, граматычную і стылістычную характарыстыку. Напрыклад, пры назоўнікавых выразах у выданні стаіць граматычная памета *с.* (назоўнік), прыведзены канчаткі роднага склону. Разумеючы, што сэнс большасці фразеалагізмаў не абмяжоўваецца іх прадметна-лагічным значэннем, а ўключае і эмацыянальна-ацэначную афарбоўку, Насовіч шырока выкарыстоўваў стылістычныя пameты, тыпу *насмешливое название, говорится шуточно...* Да некаторых фразеалагічных адзінак аўтар падаваў этымалагічныя звесткі.

**В КУЛА́КЪ ТРУБИ́ЦЬ**, сов. Въ кулакъ затрубить, гл. ср. Громко плакать, выть, утирая кулакомъ слезы. Теперь тобе смехъ, а потомъ будишъ въ кулакъ трубить, затрубишъ.

**НАСВЕ̂ЦИ́ЦЬЦА ВОЧА́МИ**, гл. общ. сов. в. Принять много стыда или срама; подвергнуться стыду или сраму предъ другими. Насвецився я за цебе вочами.



Для гісторыі беларускага мовазнаўства «Словарь...» Насовіча важны найперш таму, што гэта арыгінальны лексікаграфічны твор, прысвечаны лексічнаму складу беларускай мовы XIX стагоддзя. Па сутнасці, беларускі вучоны стварыў першы ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве тлумачальна-этымалагічна-перакладны слоўнік і тым самым заклаў фундамент у будучае айчыннай лексікаграфіі.

Пасля з'яўлення шматлікіх водгукаў на свой слоўнік Іван Іванавіч доўгі час дапрацоўваў яго і збіраў матэрыялы для папаўнення рэестра. Яны былі апублікаваны пад назвай «Дополнение к белорусскому словарю И. И. Носовича. Слова, извлеченные из составленного им рукописного собрания Белорусских песен и сказок» у 1881 годзе ў «Сборнике Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук» ужо пасля смерці аўтара.

Дадатак да слоўніка складаецца з 22 старонак, уключае 420 слоўнікавых артыкулаў, складзеных па прынцыпах «Словаря белорусского наречия». Да рэестравых слоў пададзены тлумачэнні, граматычныя паметы, а таксама ілюстрацыі з твораў вуснай народнай творчасці. Паслядоўна размежаваны мнагазначныя словы, пазначаны пераносныя значэнні слоў. У некаторых артыкулах аўтар звярнуў увагу, што слова абласное, і ўказаў, на якой тэрыторыі яно ўжываецца ў маўленні.

**ЗАКОКЛЮШКА**, и, с. ж. 1) Запонка, крючок для застегивания.

Отдай мое два персцёнки, треццю закоклюшку,

Коли мене ты не любишъ, полюби-жъ лягушку. *Изъ песни.*

2) Задача (переносно). Задавъ мне панъ ладную закоклюшку.

**ЛИХОДЕЙ**, я, с. м. Зложелатель. Лиходеям на зайздросць, а намъ на доброе здоровье. *Пог.*

**ОБРАЗИНА**, ы, с. общ. Безобразный лицомъ. Першій разъ образину такого вижу. Образина, а не человек!

У аддзеле рэдкай кнігі Фундаментальнай бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта захоўваецца верш-эпіграма «Явка Белорусского словаря по выходе из печати к своему в Мстиславле автору», у якім

Іван Іванавіч расказвае пра перыпетыі з выданнем слоўніка.

Як вядома, «Словарь белорусского наречия» рыхтаваўся да друку на працягу 7 гадоў. Неаднаразова змяняўся рэдактар выдання і адпаведна погляды рэдактараў на слоўнік. Першыя пяць аркушаў былі адрэдагаваны акадэмікам І. Сразнеўскім. Пасля яго ад'езду ў доўгатэрміновую камандзіроўку рэдактарскія функцыі (магчыма, пад уплывам калегі і сябра беларуса Каэтана Касовіча; 1815—1883) пагадзіўся выконваць акадэмік Апанас Бычкоў (1818—1899).

Як ужо адзначалася, у XIX ст. яшчэ не было афіцыйна прызнана, што беларуская мова з'яўляецца самастойнай мовай, а не дыялектам рускай ці польскай мовы. Іван Насовіч пісаў, што дзяржаўная палітыка не лічыцца з патрэбамі «шматлікага ніжэйшага класа людзей» мець сродак зносін паміж сабою. Вучоны абураўся, што ніводная іншая мова так, як беларуская, ні служыла прадметам высмейвання і кпінаў:

> Ёсць такія з ганіцеляў усяго беларускага, такія братаненавіснікі, якія замест таго, каб прыйсці на разгляд звычаяў, маралі і самога побыту беларусцаў; замест таго, каб папрацаваць над даследаваннем адрознення паміж рускім і беларускім словам, выводзяць на сцэну рускага свету як саміх беларусцаў з іх звычаямі, так і мову іх у самым брыдкім і агідным выглядзе.

Натуральна, што ў той час не было адзінага меркавання адносна статусу беларускай мовы і ў навуковым асяроддзі. Адны вучоныя лічылі, што беларуская мова — самастойная славянская мова (М. Надзеждзін, М. Максімовіч), другія — што гэта адгалінаванне ўкраінскай мовы (Ф. Міклашыч), але найбольш пашыраным быў падыход да яе як да адной з гаворак рускай мовы (І. Сразнеўскі, А. Сабалеўскі, А. Патабня). Іван Насовіч меркаваў, што наша мова такая ж дасканалая,



*Дынабургская гімназія, арганізаваная Іванам Насовічам*

як руская, а таму мае права называцца самастойнай мовай, але ніяк не гаворкай. Рэдактары ж слоўніка (і Сразнеўскі, і Бычкоў) прытрымліваліся афіцыйнай пазіцыі і лічылі, што беларуская мова можа прэтэндаваць хіба толькі на статус «наречия» велікарускай мовы.

У архіве А. Бычкова захаваліся асобныя лісты яго перапіскі з І. Насовічам падчас падрыхтоўкі слоўніка да друку. З ліставання відаць, як традыцыя пецярбургскага беларусазнаўства негатыўна ўплывала на рэдактарскую працу Бычкова. Адрэдагаваны слоўнік па выхадзе з друку выклікаў абурэнне ў аўтара. Сваё незадавальненне Іван Іванавіч выказаў у форме верша-дыялога Слоўніка і яго Аўтара, дзе Аўтар шкадуе, што Слоўнік у руках рэдактараў набыў дзіўнаваты выгляд і страціў цэлы шэраг спецыфічна нацыянальных рыс.

Але, разам з тым, Аўтар адзначаў, што ўсе «перакручванні» зместу Слоўніка, сцвярджэнні, што беларуская мова — руская гаворка, якая відазмянілася пад уплывам польскай мовы, не змаглі сцерці адметных беларускіх рыс.

Тэкст верша-эпіграмы, прысвечанага «Словарю белорусского наречия» яго аўтарам, наступны:

**Явка Белорусского словаря**
**По выходе изъ печати къ своему**
**Въ Мстиславле Автору.**

*Словарь*
*Здоровъ, панъ!*
*Авторъ*
*Ба! Изъ Петербурга.*
*Чтожь это? Ты [,] брат [,] стал курнось!*
*Ну ужъ-то ты въ рукахъ хирурга*
*Оставилъ свой Кривичскій носъ? (предисловіе)*

*Словарь*
*Мой носъ сорвалъ къ какой-то цели*
*И спряталъ у своей портфели*
*Членъ Академіи Зоил* [Ізмаіл Сразнеўскі — *С. Ш.*]
*Къ моей-же сжалясь кто-то роже*
*На носъ кривичскій не похоже*
*Красивый носик приклеилъ.*
*Автор*
*Пусть такъ! Ты въ немъ похожъ на франта [,]*
*Физіогномія-жъ не та!*
*Кривичскій носъ былъ носъ гиганта [,]*
*Породы всехъ славянъ черта [.]*
*А тутъ не видно, съ кемъ съродни ты?*
*Твои какъ будто черты слиты*
*Съ физіогноміей чужой [.]*
*Вліянье польское ничтожно*
*Тебе приписано здесь ложно,*
*Везде характеръ виден твой.*

*Ив. Носович*

Палітычнае значэнне працы актыўна абмяркоўвалі і тагачасныя віленскія вучоныя. Так, Пётр Гільтэбрант (1840—1905) пісаў:

> Беларускі слоўнік, без сумневу, рэч манументальная і важная... Рыхтуючы справаздачу аб гэтай шаноўнай працы для *Віленскага Весніка*, я, між іншым, паказваю, акрамя яго навуковага значэння, і на палітычнае: палякам ён вельмі не даспадобы. Калі цэнзура будзе літасцівая, то спадзяюся абавязкова даказаць гэта.

Аднак, якой бы складанай не была гісторыя падрыхтоўкі і публікацыі «Словаря белорусского наречия», гэтае выданне з'яўляецца пэўным рубяжом у беларускай лексікаграфіі: пасля яго пачалося інтэнсіўнае ўкладанне слоўнікаў розных тыпаў — фразеалагічных, дыялектных і іншых.

Нягледзячы на сталы ўзрост, Іван Іванавіч да апошніх дзён жыцця працаваў з сабраным ім моўным матэрыялам. Ужо ў канцы сваёй навуковай кар'еры ў лісце да рускага мовазнаўцы акадэміка Якава Грота (1812—1893) Насовіч пісаў, што з 1872 года ён распачаў лінгвістычную апрацоўку моўнага матэрыялу, назапашанага ім за гады падрыхтоўкі слоўніка, паведамляў пра асноўныя кірункі сваёй працы і прыкладны яе план:

1) Пра характар беларускай мовы,
2) пра два яе дыялекты («падгаворкі»),
3) пра пабочны ўплыў на мову беларускага народа,
4) пра погляд на славянскія плямёны, якія насяляюць Беларусь,
5) пра славянізмы ў беларускай мове,
6) пра словы, што ўваходзяць у склад беларускага слоўніка,
7) пра фанетычныя асаблівасці «крывіцка-дзвінскага дыялекту»,
8) пра арфаграфічныя асаблівасці беларускай мовы ў абодвух яе дыялектах,
9) пра этымалагічныя і сінтаксічныя дыялектныя асаблівасці ў адрозненне ад рускай мовы,
10) пра роднасць беларускай мовы з украінскай,
11) пра выражэнне думак і пра беларускія «простанародныя творы»,
12) пра беларускае старажытнае і сучаснае вершаскладанне.

У «Воспоминаниях моей жизни» Іван Насовіч выказаў свае погляды на групоўку беларускіх гаворак. У мемуарах, як і ў лісце да Я. Грота, ён вылучыў дзве групы беларускіх гаворак (па сутнасці, два дыялекты). Адным з вызначальных адрозненняў паміж імі навуковец назваў выразнае і невыразнае вымаўленне галоснага «а» не пад націскам, што ў сучаснай беларускай лінгвістычнай навуцы называецца розніцай у тыпе

акання. Такі аналіз беларускай мовы з боку вучонага быў ужо непасрэдным пераходам да дыялекталагічных даследаванняў.

Сучасныя набыткі ў галіне дыялекталогіі дазваляюць канстатаваць, што выбар навукоўцам асноўнай з'явы пры размежаванні беларускіх гаворак, нягледзячы на ўсю яго інтуітыўнасць, быў цалкам абгрунтаваны.




Магчыма, калі б Іван Насовіч заняўся даследчыцкай дзейнасцю не так позна, беларуская навука набыла б у яго асобе не толькі слыннага лексікографа, этнографа і фалькларыста, але і таленавітага дыялектолага.

Звяртаўся Іван Іванавіч і да іншых праблем тагачаснай лінгвістыкі. Так, у артыкуле «О литовцах» ён выказаў сваё меркаванне адносна паходжання літоўскай мовы і яе роднасці з іншымі мовамі. Для многіх тагачасных славянскіх мовазнаўцаў было характэрна меркаванне, што літоўская мова з'яўляецца прамым адгалінаваннем лацінскай мовы. Іван Іванавіч, улічваючы ўсе свае назіранні над літоўскай мовай, сцвярджаў, што такі падыход памылковы. Навуковец даказваў, што літоўская мова мае значна больш агульнага са славянскімі мовамі, чым з лацінскай. У працы ён прывёў шэраг слоў, агульных для літоўскай і славянскіх моў, прааналізаваў падабенства моў у галіне граматыкі. Адносна гісторыі Літвы, Беларусі і Расіі даследчык пісаў:

З гэтых сімпатычных шматвекавых сувязяў літоўцаў з рускімі ўвогуле князямі можна дапусціць, што калі заходнія этнографы і не прысвойваюць літоўскаму народу славянскага паходжання, то ён быў народ, які з самых старажытных векапомных часоў злучыў лёс свой з крывіцкім у старажытнасці знакамітым племем або з беларускімі суседнімі славянамі.

Акрамя таго, у кантэксце літоўскай мовы Насовіч разважаў пра самастойнасць беларускай. Ён параўноўваў яе з мовай літоўцаў і спасылаўся на аргументы, якія дазволілі вядомаму беларуска-польскаму вучонаму Адаму Кіркору (1818—1886) разглядаць літоўскую мову як самастойную. Усе свае меркаванні аўтар артыкула падмацаваў багатым ілюстрацыйным матэрыялам: у публікацыі ён змясціў тэксты літоўскіх песень з беларускім перакладам да іх, каб чытач мог параўнаць гэтыя тэксты.

У XX ст., калі пытаннямі ўзаемадзеяння балтыйскіх і славянскіх моў заняліся такія вядомыя навукоўцы, як А. Трубачоў, У. Тапароў, У. Іванаў, С. Бернштэйн, С. Старасцін і іншыя, пазіцыя Івана Насовіча пра роднасць літоўскай і славянскіх моў атрымала пацвярджэнне і тэарэтычнае абгрунтаванне.

Апошнія гады жыцця Іван Іванавіч правёў у Мсціславе. Там ён і памёр 25 ліпеня 1877 года — праз сем гадоў пасля публікацыі найважнейшай лексікаграфічнай працы XIX стагоддзя, якой заслужана лічыцца «Словарь белорусского наречия».

Пахаваны заснавальнік беларускай лексікаграфіі на могілках мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра.

## «Словарь белорусского наречия» ў ацэнках лінгвістаў

Навуковымі здабыткамі Івана Насовіча цікавіліся многія вядомыя вучоныя — яго сучаснікі: А. Вастокаў, М. Каркуноў, А. Бычкоў і іншыя. Водгукі на яго працы

рэгулярна публікаваліся ў «Известиях Академии наук по Отделению русского языка и словесности».

У «Филологических записках» у 1873 годзе М. Шапіра надрукаваў рэцэнзію на «Словарь белорусского наречия», у якой шчыра вітаў з'яўленне гэтай працы, адзначаў яе перавагі над існуючымі слоўнікамі, у якіх таксама апісвалася беларуская мова, акцэнтаваў увагу на інавацыйных падыходах аўтара да сістэматызацыі беларускай лексікі. Заўвагі датычыліся ў асноўным этымалагічных каментарыяў Насовіча, але рэцэнзент падкрэсліваў, што такая інфармацыя ў слоўніку зусім не абавязковая, таму памылкі аўтара ніяк не зніжаюць навуковага ўзроўню выдання. Шапіра склаў спіс слоў (каля сотні), этымалогія якіх, на яго думку, вызначана ў аўтара няправільна, і прапанаваў свае тлумачэнні. Аднак з пункту гледжання сучаснай лінгвістыкі, многія тлумачэнні рэцэнзента таксама не з'яўляюцца слушнымі.

Вядомы расейскі фалькларыст Пётр Бяссонаў таксама адгукнуўся на выданне «Словаря белорусского наречия» ва ўступным слове да свайго зборніка песень. Ён выказваў меркаванне, што Насовічу ў пэўнай ступені не хапіла філалагічных ведаў для таго, каб напісаць цалкам бездакорную лексікаграфічную працу, аднак віна ў тым, што «Словарь...» мае асобныя філалагічныя хібы, поўнасцю ляжыць на рэдактарах, якія не змаглі дапамагчы аўтару-аматару, а менавіта — на І. Сразнеўскім і А. Бычкове.

Іван Цішчанка ў сваім даследаванні, прысвечаным навуковай спадчыне Насовіча, пісаў:

> Сапраўды, І. Насовіч мала вучыўся, яму не давялося слухаць спецыяльныя курсы навукі ў масцітых пецярбургскіх ці маскоўскіх прафесараў, але дзякуючы неспатольнай празе да ведаў, нястомнай працы над сабой, настойлівасці ў дасягненні пастаўленай мэты, стаў высокаадукаваным чалавекам свайго часу, здзейсніўшы грамадзянскі і навуковы подзвіг.

Расійскі літаратуразнаўца і этнограф Аляксандр Пыпін (1833—1904) у працы «История русской этнографии» ўпершыню апублікаваў кароткую біяграфію І. Насовіча, а таксама звярнуў значную ўвагу на яго слоўнік: ён апісаў умовы з'яўлення гэтай працы і асноўныя крыніцы яе матэрыялу. Акадэмік слушна адзначаў, што «Словарь белорусского наречия» можа паслужыць базай для далейшага скрупулёзнага вывучэння беларускай мовы.

Пыпін назваў выданне Насовіча не «Словарем белорусского наречия», а «Словарем белорусского языка», падкрэсліваючы думку пра тое, што беларуская мова з'яўляецца самастойнай мовай, а ніяк не гаворкай велікарускай мовы. Гісторык сцвярджаў, што фактычны матэрыял, сабраны Іванам Іванавічам, прадстаўляе значную цікавасць для філолагаў, і апрацоўваць яго можна яшчэ доўга.

І сапраўды, працы Насовіча на працягу многіх дзесяцігоддзяў з'яўляліся крыніцай моўнага матэрыялу для беларускіх даследчыкаў.

Акадэмік Яўхім Карскі (1931) у сваіх шматлікіх сачыненнях выкарыстоўваў фактычны матэрыял з публікацый і рукапісаў Насовіча. Праўда, з пазіцыі заснавальніка беларускага мовазнаўства ён дазваляў сабе і асобныя крытычныя заўвагі на адрас Івана Насовіча. Акадэмік ужо прызнаваў самастойнасць беларускай мовы і ўвогуле разважаў з пункту гледжання дасягненняў беларусістыкі ў цэлым, таму пісаў, што вялікім недахопам «Словаря белорусского наречия» з'яўляецца адсутнасць у ім агульнаўсходнеславянскіх слоў, крытыкаваў таксама рэдактарскую апрацоўку слоўніка.

Спадчына І. І. Насовіча дастаткова актыўна даследавалася савецкімі мовазнаўцамі другой паловы XX стагоддзя. Яго навуковую дзейнасць вывучалі М. Гуліцкі, А. Жураўскі, І. Крамко, П. Міхайлаў, М. Прыгодзіч, М. Суднік і многія іншыя.

У кнізе «Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.)» М. Гуліцкі зрабіў падрабязны ўсебаковы аналіз «Словаря белорусского наречия». Навуковец параўнаў тагачасныя лексікаграфічныя выданні са слоўнікам, а таксама раннія працы аўтара з публікацыямі наступных гадоў і адзначыў відавочны прагрэс у станаўленні Насовіча-лінгвіста.

У 1983 годзе «Словарь белорусского наречия» (пад удакладненай назвай «Слоўнік беларускай мовы») быў выдадзены факсімільным спосабам з прадмовай М. Судніка, у якой сцісла апісаны жыццёвы і навуковы шлях Івана Насовіча. Перавыданне, акрамя самога слоўніка, уключае Дадатак да яго, падрыхтаваны аўтарам у канцы жыцця і надрукаваны пасля яго смерці.




У нарысе «Першапраходзец» І. Цішчанка прааналізаваў і высока ацаніў этнаграфічныя і фальклорныя здабыткі І. Насовіча. Некаторая ўвага нададзена і «Словарю белорусского наречия». Аўтар падкрэсліў высокую вартасць гэтай лексікаграфічнай працы Насовіча і сцвярджаў, што з'яўленне такога слоўніка — надзвычай важная падзея для беларускай лексікаграфіі, якая больш так і не паўтарылася.

У 2008 годзе ў гонар 220-годдзя з дня нараджэння І. Насовіча на базе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшлі навуковыя чытанні, прысвечаныя асобе і навуковаму подзвігу

гэтага вучонага, па выніках якіх быў апублікаваны зборнік навуковых артыкулаў «Спадчына Івана Насовіча і беларускае мовазнаўства».

Такім чынам, «Словарь белорусского наречия» Івана Насовіча для сучаснай лінгвістычнай навукі з'яўляецца не толькі гістарычным помнікам, але адыгрывае важную ролю і як важная лексікаграфічная крыніца. Па словах прафесара Міхаіла Булахава, унікальная лексічная і фразеалагічная калекцыя І. Насовіча зрабіла вялікае ўздзеянне на развіццё ўсёй усходнеславянскай лексікаграфіі.

Да нашага часу гэты слоўнік застаецца фактычнай базай у вырашэнні агульнаславістычных праблем мовазнаўства, асабліва ў параўнальна-гістарычных і дыялекталагічных працах, у даследаваннях па славянскай лексічнай тыпалогіі і этымалогіі. Бясспрэчная роля фактаў слоўніка таксама для граматычных і фаналагічных даследаванняў.

Па сваёй значнасці для развіцця беларускай мовы і беларускай культуры «Словарь белорусского наречия» Івана Насовіча знаходзіцца побач з такімі выданнямі, як «Словарь живого великорусского языка» У. Даля (1863—1866) і «Словарь української мови» Б. Грыгарэнкі (1907—1909), якія сталі, па сутнасці, першымі агульнанацыянальнымі слоўнікамі рускага і ўкраінскага народаў і захавалі для нашчадкаў неацэнны скарб — найдаражэйшую моўную спадчыну ўсходніх славян.

## Ад рэдактара

7 кастрычніка 2013 года споўнілася 225-я гадавіна з дня нараджэння Івана Іванавіча Насовіча. Хаця яго імя вядома вузкаму колу мовазнаўцаў, уклад гэтага навукоўца ў развіццё беларускага мовазнаўства неацэнны. Яго асоба знаходзіцца ў адным шэрагу з Янкам Купалам і Якубам Коласам.



*Тупічэўскі манастыр у Мсціславе, дзе пахаваны Іван Насовіч*

Для беларусаў Іван Насовіч значыць тое самае, што Уладзімір Даль для рускіх з той розніцай, што Даль вядомы кожнаму школьніку, чаго не скажаш пра нашага лінгвіста. Што ж, шлях вяртання ў айчынную культуру і грамадскасць беларускіх асветнікаў-патрыётаў доўгі, цяжкі і пакутлівы.

Галоўная заслуга Івана Насовіча ў выданні ім слоўніка беларускіх гаворак, над якім аўтар працаваў больш за 20 гадоў. У ім сабрана каля 30 тысяч слоў жывой беларускай мовы. Вартасць слоўніка перааценіць немагчыма, асабліва сёння, бо мы апынуліся ў такім стане, што знікаюць самі носьбіты беларускай мовы, многія словы выйшлі з ужытку, а шмат якія выцесненыя паланізмамі і русізмамі. Таму гэта — крыніца беларускай мовы, жывой, сапраўднай мовы, да якой трэба звяртацца, з якой трэба чэрпаць мову, а не карыстацца прынцыпам, абы не так, як у рускай ці польскай мове. Такім чынам мы зможам вяртацца да сваіх вытокаў.

## Бібліяграфія

**Беларуская мова і мовазнаўства: XIX стагоддзе** / Пад агул. рэд. М. Р. Прыгодзіча/. Мн.: БДУ, 2013.

Гуліцкі М. Ф. **Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.).** Мн.: «Выш. Школа», 1978.

Жураўскі А. І., Крамко І. І. **Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы** // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх. навук. 1963, № 4.

Крывіцкі А. А. **Дыялекталогія беларускай мовы.** Мн.: «Выш. Школа», 2003.

Лепешаў І. Я. **Фразеалогія беларускай мовы.** Мн.: «Выш. Школа», 1998.

Міхайлаў П. А. **Навуковы подзвіг: да 200-годдзя з дня нараджэння І. І. Насовіча** // «Беларуская лінгвістыка», 1988, вып. 34.

Прыгодзіч М., Прыгодзіч А. **Іван Насовіч — мовазнаўца, этнограф, фалькларыст** // «Роднае слова», 2008, № 2.

**Спадчына Івана Іванавіча Насовіча і беларускае мовазнаўства** / адказны рэд. М. Р. Прыгодзіч/ Мн.: «Права і эканоміка», 2008.

Суднік М. Р. **Іван Іванавіч Насовіч — выдатны вучоны і асветнік** // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1989, № 2.

Цішчанка І. К. **Да народных вытокаў: збіранне і вывучэнне беларускага фальклору ў 50—60-я гады XIX ст.** Мн.: «Навука і тэхніка», 1986.

Шакун Л. М. **Гісторыя беларускага мовазнаўства.** Мн.: «Універсітэцкае», 1995.

Шейн П. В. **Иван Иванович Носович: краткий биографический очерк.** СПб.: Типография Императорской Академии наук, 1900.

# ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданне

ШАХОЎСКАЯ Святлана

ІВАН НАСОВІЧ

ЗБІРАЛЬНІК НАРОДНАГА СЛОВА

Ответственный за выпуск *Ю. Г. Хацкевич*

Подписано в печать 20.10.2014.
Формат 70 × 90 $^{1}/_{32}$. Бумага офсетная. Печать офсетная.
Усл. печ. л. 2,34. Уч.-изд. л. 2,2.
Тираж 1000 экз. Заказ 2986.

ООО «Харвест».
Свидетельство о ГРИИРПИ № 1/17 от 16.08.2013.
Ул. Кульман, д. 1, корп. 3, эт. 4, к. 42, 220013, г. Минск, Республика Беларусь.
E-mail редакции: harvest@anitex.by

Республиканское унитарное предприятие
«Издательство «Белорусский Дом печати».
Свидетельство о государственной регистрации издателя, изготовителя,
распространителя печатных изданий № 2/102 от 01.04.2014.
Пр. Независимости, 79, 220013, г. Минск, Республика Беларусь.




ISBN 978-985-18-3554-2

**Іван Насовіч (1788—1877) – славуты мовазнавец і фальклярыст, пачынальнік беларускай лексікаграфіі. Склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы (1867 г.), першы тлумачальны «Словарь белорусского наречия» (1870 г.), пяць зборнікаў беларускага фальклора. Аўтар шматлікіх артыкулаў па фальклоры і этнаграфіі.**